*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*



# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 7 верасня 1990 г. № 36 (3550) ● Цана 10 кап.

●

**Думка пра стварэнне на Стаўбцоўшчыне «Дарогі Коласа» даўно выспявала ў дзеячаў культуры...**

Шмат сцежак, па якіх давялося хадзіць народнаму песняру. Бацька яганы Міхал Міцкевіч жыў у розных кутках і заўсёды марыў стаць незалежным, працаваць на сваім кавалку зямлі. Паэт адлюстраваў гэта ў паэме «Новая зямля».

І вось вырашана: героі гэтага і іншых твораў, увасобленыя ў дрэве, павінны стаць своеасаблівым помнікам Коласу. Каб хутчэй рэалізаваць ідэю на справе, у Стаўбцоўскім раёне правялі рэспубліканскі семінар-практыкум разьбяроў па дрэве. На хутары Альбуць, дзе дванаццаць год жыла сям'я паэта, сабраліся лепшыя майстры з Мінска, Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Закіпела праца, застукалі сякеры. І вось ужо амаль два дзесяткі скульптур пастаўлены каля Акінчыц, Смольні, у гарадскім лесапарку, па дарозе на Альбуць.

Перад вамі —аўтары «Коласавай дарогі» і некаторыя іх работы. У верхнім радзе (злева направа): Леанід Галаенка, Анатоль Маголін, Сяргей Кляшчук, Міхась Корабаў; ніжні рад — Андрэй Пагажэльскі, Генадзь Дзялендзік, Валерый Парашчанка, Іван Супрунчык.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**




# ПОВЯЗЬ УЧАРАШНЯГА І СЁННЯШНЯГА

## Хроніка свята

**Прыйшло на беларускую зямлю светлае скарынаўскае свята. Кожны пройдзены дзень лучыць нас са шляхам, пройдзеным вялікім асветнікам і гуманістам. Узіраючыся ў здзейсненае ім, мы задумваемся і над тым, як жыць далей, што рабіць, каб запаветы яго не згаслі, каб не забыліся на іх, як было ўжо неаднойчы. У гэтай повязі часоў — мінулага і цяперашняга — вымалёўваюцца контуры, абрысы будыніны, імя якой — будучыня. Трывала стаяць яму, бо падмурак ужо закладзены, а сцены ўзводзяцца, мацуюцца і ў гэтыя, юбілейныя дні...**

«Добры дзень, добрыя людзі!» — гэтыя шчырыя наскія словы гучалі мінулай нядзеляй у парку імя Янкі Купалы сталіцы рэспублікі, дзе адбылося гарадское студэнцкае свята, прысвечанае 500-годдзю Ф. Скарыны.

Быццам само сярэднявечча, у якое жыў і тварыў наш першадрукар, асветнік і гуманіст, вярнулася ў парк. Спачатку пад спакойныя акорды «Полацкага сшытка», а потым пад гукі іншай старадаўняй музыкі тут, ля помніка Скарынаваму прадаўжальніку Янку Купалу, на адкрытай сцэне выступіў вядомы фальклорна-харэаграфічны ансамбль «Харошкі». Ён вярнуў народныя танцы, кампазіцыі, пра якія, на жаль, многія з нас забыліся, а пераважная большасць — будзем шчырымі — і не ведала, не чула.

А гэта ўжо — памылкі быць не можа! — спяшаюцца сюды, на імправізаваныя тэатральныя падмосткі сам Ф. Скарына, Мікола Гусоўскі, Пётр Мсціславец, Маргарыта... Іх воблікі ўвасобілі акцёры купалаўскага тэатра: У. Рагаўцоў, Ф. Варанецкі, Т. Пузіноўская, А. Уладамірскі, М. Кірычэнка. Яны паказалі ўрывак са спектакля па п'есе А. Петрашкевіча «Напісанае застаецца».



На стэндзе — Скарынавы кнігі.

Сапраўды, як сказаў вядомы вучоны, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, паэт і празаік, аўтар рамана-эсэ «Францыск Скарына, або Сонца маладзіковае» А. Лойка, звяртаючыся да прысутных, Францыск Скарына жыве ў нас і з намі. Ён — наша сумленне. Ён — гэта подзвіг, мудрасць, любоў, прыгажосць... А. Лойка зазначыў, што подзвіг Ф. Скарыны эпахальны, бо менавіта з першай друкаванай кніжкі на роднай мове беларусы ўсвядомілі сябе самабытным і самастойным народам. Цяпер жа, адраджаючы сваю спадчыну, духоўнасць, культуру, мы аддаём яго памяці цеплыню сваіх сэрцаў і душ.

Студэнцкае скарынаўскае свята прадоўжылі ўдзельнікі фальклорнага калектыву «Валачобнікі» Мінскага інстытута культуры, самадзейныя артысты БПІ і інстытута замежных моў, фальклорны ансамбль «Зорачка» Мінскага гарадскога Палаца піянераў і школьнікаў. Прыйшліся гледачам даспадобы і гумарыстычныя сцэнкі ў выкананні артыстаў Ленінградскага тэатра музычнай камедыі.

Дарэчы, тут, ля помніка Я. Купалу, у гэты ж дзень фінішавалі і ўдзельнікі 1000-кіламетровага прабегу, прысвечанага юбілею Ф. Скарыны, які пачаўся 24 жніўня з вуліцы Кірылы і Мяфодзія і праходзіў па многіх памятных мясцінах Беларусі і Літвы...

●

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна — скарбніца многіх старадрукаў. Сярод унікальных выданняў захоўваюцца і скарынаўскія. Пачатак ягонай калекцыі быў пакладзены яшчэ ў 1925 годзе, калі ў ленінградскага бібліяфіла Камарніцкага набылі 10 кніг. На жаль, у час акупацыі фашысты вывезлі іх у Германію. Пасля вайны вернута сем.

Іх можна ўбачыць на выстаўцы «Скарыніяна», якая адкрылася ў бібліятэцы ў аўторак. Гэта — «Іоў», «Ісус Сірахаў», «Еклесіяст», «Песня песням», «Прамудрасць божая», «Царствы», «Прарок Данііл»... Час наклаў свой адбітак на Скарынавы выданні. У асобных з іх не хапае некаторых аркушаў, сустракаюцца і аркушы дэфектныя. Але ж гэта — кнігі самога Ф. Скарыны!

●

У Доме літаратара, таксама ў аўторак, прайшла прэс-канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел члены рэспубліканскага аргкамітэта па правядзенні святкавання юбілею Ф. Скарыны, вучоныя, пісьменнікі, замежныя і савецкія госці.

Адкрыла прэс-канферэнцыю намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай. З асноўнымі мерапрыемствамі работнікаў друку, радыё і тэлебачання, а таксама ўсіх, хто прыйшоў у Дом літаратара, пазнаёмілі міністр культуры БССР Я. Вайтовіч, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка, старшыня Дзяржкамдруку БССР А. Бутэвіч і іншыя.

Было паведамлена, у прыватнасці, што Савет Міністраў БССР прыняў рашэнне аб стварэнні нацыянальнага навуковаасветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны.

●

З самай раніцы 5 верасня было людна на былой Акадэмічнай вуліцы ў Мінску. Збылася даўняя мара рупліўцаў на нацыянальнай ніве: нарэшце ў сталіцы рэспублікі з'явілася вуліца, якая «названа ў гонар Францыска Скарыны — беларускага і ўсходнеславянскага асветніка і першадрукара». Прынамсі, так сведчыць тэкст мемарыяльнай дошкі, аўтар якой малады мінскі скульптар Алесь Дранец.

Выбар вуліцы невыпадковы. З аднаго боку знаходзіцца Акадэмія навук БССР — Ф. Скарына быў знакамітым вучоным.

На студэнцкім свяце выступае фальклорны ансамбль «Валачобнікі».



Ніл ГІЛЕВІЧ і Станіслаў-Стэнлі СКАРЫНА.



# Ватыкан — Мінск — Полацк...

### Арганіст Папы Рымскага ўпершыню наведаў Беларусь

Зрэшты, выдатны музыкант Артура Сакецці выконвае місію не толькі арганіста Папы. Ён — мастацкі кіраўнік музычных праграм Радыё Ватыкана, прафесар кансерваторыі ў Рыме, мастацкі дырэктар Таварыства камернай музыкі ў Лугана (Швейцарыя), аркестравы дырыжор, хормайстар, кампазітар, уладальнік шматлікіх грамзапісаў... У Мінск прыехаў па запрашэнні Музычнага таварыства БССР — весці заняткі па класе клавесіна са слухачамі Акадэміі старадаўняй музыкі. (Як вядома, Беларусь ужо другі год ладзіць гэткія курсы выканаўчага майстэрства, і з усесаюзных яны выходзяць на міжнародны ўзровень. Павучыцца ў А. Сакецці, напрыклад, прыехалі і музыканты з Японіі, з Ганконга).

Сёлетнія курсы праходзяць пад знакам свята Скарыны, падтрымліваючы лейтматыў гуманізму і духоўнага адраджэння. Дзякуючы ініцыятыве Музычнага таварыства ў рамках урачыстасцей адбыліся і публічныя выступленні Артура Сакецці: сольны арганны канцэрт у зале Святога Роха, што на Залатой Горцы ў Мінску, канцэрт у Полацкай Сафіі. Учора ў зале Святога Роха была супольная праграма з Дзяржаўным камерным аркестрам БССР і Мінскім дзяржаўным камерным хорам, дзе наш госць меў тры ролі: аркестравага дырыжора, дырыжора хору да аркестра і арганіста.

Ці трэба казаць, што культурны люд Беларусі ўспрыняў візіт прафесара Сакецці не проста як буйную падзею ў музычным жыцці — здаецца, сам Бог даў магчымасць сустрэцца з духоўным пасланцом Італіі, дзе некалі дыхаў паветрам Адраджэння і наш вялікі асветнік — доктар Скарына.

Пагутарыць нам з маэстра дапамагла ягоная жонка Наташа — руская піяністка, студэнтка Алма-Ацінскай кансерваторыі, з якою музыкант пазнаёміўся пад час гастроляў у СССР. Яна добра валодае італьянскай і вырашае ўсе дзелавыя пытанні за сакратара, за імпрэсарыо.

— *Маэстра, якія асаблівасці ў працы арганіста Ватыкана?*

**— Арганіст Ватыкана іграе толькі тады, калі прысутнічае Папа. Таксама ладзіць канцэрты для Папы — з хорам, з аркестрам. Павінен суправаджаць Папу ў паездках. І ўсе нашы музычныя праграмы Радыё Ватыкана павінны мець дазвол Папы. У Папы два арганісты: адзін для важных канцэртаў (гэтая місія ўскладзена на мяне) і адзін для самых розных набажэнстваў.**

— *Вы з адзнакай скончылі вердзіеўскую кансерваторыю ў Мілане, маеце дыплом па шэрагу музычных спецыяльнасцей, у тым ліку і як арганіст. А ці рыхтуюць арганістаў спецыяльна для Ватыкана?*

**— Не-не, да гэтага не рыхтуюць як да будучай працы. Сюды арганіста запрашае сам, асабіста, Папа. Хоць, вядома, ёсць Інстытут Папы, дзе навучаюцца многія святары, а таксама тыя, хто атрымлівае потым магчымасць іграць у царкве...**

— *У Мінску вы з пэўнай місіяй — як педагог...*

**— Так, для мяне гэта іменна місія. Важная. Для музыканта, які канцэртуе, важна быць і настаўнікам. Я не займаюся з пачаткоўцамі, я вучу ўжо музыкантаў, гэта мне вельмі падабаецца, бо яны ўжо маюць і педагогаў, прафесароў, і свой вопыт, і я гавару з імі як з музыкантамі. Прыемна, што на мае курсы з'ехалася шмат людзей, што многія проста прыходзяць з жаданнем паслухаць. А мы ж займаемся не папулярным фартэпіяна, а клавесінам — старажытным і вельмі рэдкім інструментам, значыць, тут і піяністы праходзяць своеасаблівую спецыялізацыю. Вельмі багата публікі і на канцэртах — я думаю, людзі ідуць, каб пазнаёміцца з невядомай для іх музыкай. Бо на канцэртах у Савецкім Саюзе я заўсёды іграю толькі музыку Італіі, яна ў праграмах арганістаў сустракаецца надта рэдка, таму публіка ведае пераважна Баха, Франка ды Ліста.**

— *Маэстра, вы ігралі з мінскімі музыкантамі. Першае ўражанне?*

**— Камерны аркестр падрыхтаваны, вельмі добры аркестр, чулы. Гэта ж надта цяжка — за кароткі час зразумець дырыжора. Тое самае і хор... Трэба мець асаблівую камунікабельнасць, каб паразумецца з дырыжорам праз музыку.**

— Вы прыехалі да нас пад час вялікага свята...

**— І я вельмі рады святкаваць юбілейныя ўгодкі Скарыны. Гэта асоба, якая зрабіла, так бы мовіць, рэвалюцыю ў вашай рэлігіі. Бо пераклад Біբліі — дужа важная справа. Яна паспрыяла дыялогу паміж людзьмі, адкрыла шлях да свабоды і веры.**

— Дзякуй, шаноўны маэстра.

Пасля выступленняў у Скарынавым Полацку і ў Мінску наш госць удзельнічае ў набажэнстве ў рыжскім Домскім саборы — падзея і для католікаў, і для ўсіх аматараў арганнага мастацтва. Затым канцэртаў Сакецці чакае музычны Валгаград...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота Ул. КРУКА.



Гасцей вітаюць землякі Якуба Коласа.

Фота Г. СЯМЁНАВА, Ул. МЯЖэВІЧА (БЕЛТА) і Ул. КРУКА.

З другога — 1-я мінская клінічная бальніца — добра вядомы і яго лекарскія справы. Нарэшце, бярэ яна пачатак паблізу Дома друку — ён жа праславіўся ў свеце і як першадрукар. Заканчваецца вуліца імя Ф. Скарыны ля Батанічнага саду — прыгадайма Ф. Скарыну-батаніка.

●

Беларускія вучоныя і госці з многіх гарадоў рэспублікі, а таксама з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі і іншых краін адразу пасля адкрыцця мемарыяльнай дошкі накіраваліся на юбілейную сесію Акадэміі навук БССР. Гаворка ішла аб неўміручасці скарынаўскай спадчыны, яе значэнні для цяперашняга Адраджэння беларускага народа. Адзначалася, што асоба Ф. Скарыны — гэта постаць сапраўднага тытана сярэдневякоўя, якая заўсёды будзе прыцягваць да сябе даследчыкаў. Адкрыццё новых фактаў, звестак пра яго — не толькі набліжэнне да Ф. Скарыны, але адначасова далейшае заглыбленне ў нацыянальную гісторыю, культуру, навуку.

●

Са скарынаўскімі ўрачыстасцямі сёлета супала і правядзенне традыцыйных Каласавін. Беларускія пісьменнікі разам з гасцямі ў сераду наведалі родныя мясціны Якуба Коласа, азнаёміліся з алеяй персанажаў твораў песняра (асобныя скульптуры чытачы ўжо бачылі на першай старонцы гэтага нумара «ЛіМа»). А ўвечары ў Стаўбцоўскім раённым Доме культуры адбылося вялікае літаратурнае свята. У выступленнях пісьменнікаў і навукоўцаў, землякоў Я. Коласа суседнічалі імёны двух волатаў беларускага народа, радцаў на ніве Адраджэння.

●

З 6 па 16 верасня ў мінскім Доме кнігі будзе працаваць выстаўка «Францыск Скарына і сённяшні дзень беларускага кнігадрукавання». У экспазіцыі прадстаўлена больш за тысячу кніг, выпушчаных у розны час выдавецтвамі рэспублікі. Сярод іх — кнігі-лаўрэаты міжнародных, усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсаў, калекцыі экслібрыса і мініяцюрныя выданні.

●

6 верасня ў Доме літаратара засядаў аргкамітэт міжнароднай асацыяцыі беларусістаў; у Палацы мастацтваў прыняла першых наведвальнікаў рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны; у Палацы культуры прафтэхадукацыі «Юнацтва» прайшло фальклорнае свята моладзі.

Вечарам прадстаўнікі творчых саюзаў, грамадскасці горада-героя Мінска, госці сабраліся ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР, дзе адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае юбілею, а таксама святочны канцэрт.

●

Сёння ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбудзецца канцэрт «Скарынінскія сюіты», заўтра ў мінскім парку імя Янкі Купалы пройдзе і Міжнародны пленэр жывапісу, а на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі БССР адкрыецца выстаўка «Аматарства Беларусі». Таксама на ВДНГ БССР, але ўжо 9 верасня, праводзіцца Дзень аматараў кнігі.

У суботу і нядзелю пройдуць мастацкія святы ва ўсіх раёнах сталіцы рэспублікі.

Гэта — у Мінску. А юбілей Ф. Скарыны адзначае ўся Беларусь. Эпіцэнтрам свята з 7 па 9 верасня стане старадаўні Полацк. Аднак пра гэта — у наступным нумары «ЛіМа».

**НАШ КАР.**

**ДАЙЦЕ ВЕРЫ!**

# ЯК ГЭТА РАЗУМЕЦЬ?

**Такое пытанне задае ў пісьме ў рэдакцыю наш чытач са Жлобіна (ліст яго друкуецца сёння на чацвёртай старонцы штотыднёвіка). Яно ўзнікла ў чытача, калі пабачыў, што іхняя жлобінская газета «Камуніст» раптам пачала выходзіць і на рускай мове. Калі чытач пацікавіўся прычынай гэтага, дык высветлілася: каб заахвоціць падпісчыкаў-гараджан...**

**Як гэта разумець!.. Днямі такое ж пытанне вырвалася і ў мяне, калі ў 35-ым нумары штотыднёвіка «7 дзён» на першай старонцы, на самым відным месцы прачытаў: «В связи с убыточностью белорусского варианта, еженедельник будет выходить только на русском языке».**

**Сапраўды, як гэта разумець! Тым больш, сёння, калі ўступіў у сілу Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», якім наша мова аб'яўлена дзяржаўнай мовай рэспублікі! Хто гэта так парашыў? Сама рэдакцыя ці выдаўцы штотыднёвіка—БЕЛТА пры СМ БССР і аддзел інфармацыі Савета Міністраў БССР! Калі апошнія, дык адно застаецца сказаць:**

**— Дзіўныя рэчы творыш ты, Божа!**

**Ну, а як гэта разумець? У каталозе газет і часопісаў БССР на 1991 год значыцца ці не паўтара дзесятка новых выданняў. Добра! Добра, вядома. Але ж толькі лічаныя з іх —беларускамоўныя. Нават пасля «Народнай газеты» стаіць сакрамантальнае: «на русском языке».**

**Гэта ўсё — што! Свядомая, знарочыстая рэакцыя на першыя захады да адраджэння беларускай мовы і культуры ці чыясьці звычная бяздумнасць, традыцыйная наша абыякавасць! Прынамсі, не хацелася б думаць, што гэта, выбачайце, правакацыя...**

**ЛІМАВЕЦ.**

*Інтэрв'ю напярэдадні падзеі*

# Купалаўцы ў юбілейным сезоне

**15 верасня адкрываецца чарговы сезон у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Наш карэспандэнт сустрэўся з галоўным рэжысёрам тэатра Валерыем Раеўскім.**

**— Валерый Мікалаевіч, чым адметны будучы сезон, што новага ўбачаць гледачы?**

— Адкрыццё сезона супадае з вельмі знамянальнай для ўсіх нас датай. Прайшло роўна семдзесят гадоў, як 14 верасня 1920 года ў Мінску быў адкрыты Першы беларускі дзяржаўны драматычны тэатр, які потым стаў славутым тэатрам імя Янкі Купалы. І вельмі сімвалічна, што юбілей калектыў сустракае актыўнай працай над сцэнічным увасабленнем аднаго з шэдэўраў літаратурнай спадчыны вялікага Янкі Купалы — п'есы «Тутэйшыя», якую ставіць рэжысёр Мікалай Пінігін, сцэнаграфія Барыса Герлавана, кампазітар Уладзімір Кур'ян. Гэта будзе фактычна першая пастаноўка «Тутэйшых» пасля забароненай спробы паставіць яе ў 1926 годзе. На прэм'еру запросім гледачоў у пачатку кастрычніка.

І ў новым сезоне асноўным клопатам купалаўцаў будзе праца над стварэння свайго, сур'ёзнага рэпертуару, не падобнага на іншыя тэатры, на афішы якіх у апошнія гады абавязкова прысутнічаюць камерцыйныя, так званыя касавыя п'есы. Я асабіста з пачуццём адказнасці і хвалявання прыступаю да ажыццяўлення даўняй задумы — пастаноўкі «Трох сясцёр» А. П. Чэхава. Перакладчык У. Някляеў, мне здаецца, здолеў перадаць чэхаўскую інтанацыю, паэтыку гэтага твора. Як толькі завершыцца праца над сцэнічным варыянтам п'есы паводле выдатнай публіцыстычнай кнігі Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі», адразу ж прыступім да яе пастаноўкі. Ну, а як звычайны беларускі селянін Ютка Казубоўскі вырашыў будаваць вежу да неба і што з гэтага выйшла, глядач даведаецца, калі мы неўзабаве запросім яго на прэм'еру новай камедыі А. Дударава і У. Някляева «Вежа». Пастаноўку спектакля, першапачатковая задума якога нарадзілася ў нашым тэатры (прачытаўшы ў «Полымі» аповесць У. Някляева, мы адразу ж заказалі яму п'есу), ажыццяўляе творчая група на чале з вядомым рэжысёрам Барысам Эрыным.

Напярэдадні юбілею купалаўцаў хочацца адзначыць, што многія лепшыя старонкі творчага летапісу тэатра звязаны з працай гэтага паважанага ветэрана беларускай і савецкай сцэны. Заўзятыя тэатралы яшчэ помняць пастаўленыя Б. Эрыным спектаклі «Ліса і вінаград», «Людзі на балоце» і многія іншыя. Трывала замацаваліся ў цяперашнім рэпертуары яго спектаклі «Вечар» А. Дударава і «Памінальная малітва» Р. Горына.

Плённыя творчыя кантакты, узаемасувязі з культурай і мастацтвам іншых, блізкіх і далёкіх народаў заўсёды былі неабходныя для развіцця беларускага нацыянальнага тэатра. Вядомы малдаўскі пісьменнік Іон Друцэ і рэжысёр Іон Унгурану прапанавалі нам сцэнічны варыянт п'есы «Белая царква». На беларускую мову яе пераклаў Генадзь Бураўкін. Як ужо добра вядома, рэжысёр Іон Унгурану нядаўна быў прызначаны новым Вярхоўным Саветам Рэспублікі Малдова на пасаду міністра культуры рэспублікі. Але ён даў цвёрдае абяцанне знайсці ў пачатку наступнага года магчымасць прыехаць у Мінск і ажыццявіць пастаноўку ў нас «Белай царквы».

Рэжысёр Андрэй Андросік, мастак Уладзімір Жданаў, кампазітар Уладзімір Кандрусевіч пачалі ўжо работу над пастаноўкай драмы Тэнэсі Уільямса «Шкляны звярынец» («Блакітная ружа» — другая яе назва, магчыма, менавіта так будзе названы і купалаўскі спектакль). Пераклаў п'есу Леанід Дранько-Майсюк. Гэта будзе першая сустрэча купалаўцаў з драматургіяй выдатнага амерыканскага драматурга нашага стагоддзя.

Заканчваецца работа над перакладам п'есы А. Камю па рамане Ф. Дастаеўскага «Бесы», якую мы плануем паставіць у якасці самастойнай работы групы артыстаў нашага тэатра. У творчых планах—камерная п'еса англійскага драматурга Дж. Марэла «Смех лангусты», прысвечаная жыццю і творчасці найвыдатнейшай актрысы С. Бярнар, цікавая сучасная п'еса вядомага ленінградскага драматурга Уладзіміра Аро «Развітанне з Вятлугіным», п'еса С. Букчына пра даўэвалюцыйны Мінск, некаторыя іншыя назвы.

**— Апошнім часам значна пашырыліся інтэрнацыянальныя сувязі купалаўцаў. Ці прыносяць яны свой плён?**

— Лічу, што яны жыццёва неабходныя для нармальнага развіцця творчага калектыву нацыянальнага тэатра. У апошнія гады мы ўпершыню ў гісторыі тэатра заключылі непасрэдныя пагадненні аб творчым супрацоўніцтве з некаторымі замежнымі тэатрамі. У самым канцы мінулага сезона, у дні Усесаюзнага свята славянскай пісьменнасці, асветы і культуры, якое праводзілася ў Мінску, мы паказалі прэм'еру камедыі балгарскага драматурга Х. Бойчава «Швейцарыя, Швейцарыя...» Паставіла яе творчая брыгада з Габраўскага тэатра імя Рача Стаянава — рэжысёр Іярдан Гаджаў, мастак Ашот Тавукчыян, балетмайстар Росен Мятодзіеў. Такое ж пагадненне заключана ў купалаўцаў і з калектывам драмы Славенскага нацыянальнага тэатра з Любляны. Цяпер мы працягваем пошук славенскай п'есы для пастаноўкі яе славенскім рэжысёрам на нашай сцэне. Пасля паспяховага паказу «Эмігрантаў» С. Мрожака (рэжысёр М. Пінігін) на міжнародным «Мрожакфестывалі» ў Кракаве ў чэрвені 1990 года многія тэатры Польшчы выказалі жаданне супрацоўнічаць з намі. Для вызначэння канкрэтнага тэатра і да падпісання пагаднення мы маркуем спярша паехаць туды, дзе даўно чакаюць сустрэчы з мастацтвам на роднай мове, — да беларусаў Беласточчыны.

**— Як канкрэтна тэатр мяркуе адзначыць свой юбілей?**

— Вядома, мінуў час гучных і пышных юбілеяў. Але сёння, калі пачаліся і набіраюць сілу працэсы адраджэння роднай мовы, гісторыі, спадчыны, юбілей беларускага акадэмічнага тэатра мог бы стаць сапраўдным нацыянальным святам. А пакуль што выдавецтва «Беларусь» не згадзілася выдаваць ці нават уключыць у план выдання гатовы ўжо рукапіс зборніка артыкулаў, рэцэнзій, творчых партрэтаў, аглядаў, эсэ, гумарэсак і розных іншых матэрыялаў пра тэатр (аўтары — вядомыя пісьменнікі, крытыкі, тэатразнаўцы, дзеячы тэатра). Аргументацыя адна — ад такога выдання не будзе прыбытку. (Заўважым у дужках: МХАТ такі зборнік выдае кожны год). З вялікай цяжкасцю мы друкуем свае афішы, бо адзіная ў Мінску друкарня з ручным наборам (друкарня Белсаўпрофа) не мае належнай колькасці беларускіх літар вялікага памеру. Не выгадна браць заказы на рэкламную прадукцыю ад тэатра імя Я. Купалы і Мінскай фабрыцы каляровага друку. З пераходам на рыначную эканоміку ў тэатра, як і ў многіх устаноў культуры, узнікнуць цяжкасці, вынікі якіх пры ранейшым стаўленні дзяржавы да культуры могуць быць самымі трагічнымі.

І тым не меней, 25 верасня мы распачынаем юбілейны паказ-агляд лепшых спектакляў тэатра імя Я. Купалы. Амаль усе назвы на афішы агляду — творы беларускай драматургіі, якія і сёння ў нашым пастаянным рэпертуары: «Паўлінка» Я. Купалы, «Трыбунал» А. Макаёнка, «Ажаніцца — не журыцца» Далецкіх і М. Чарота, «Парог», «Вечар» і «Радавыя» А. Дударава, «Мудрамер» М. Матукоўскага, «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева. Прэм'ерай «Тутэйшых» Я. Купалы плануецца завяршыць гэты агляд. Пералік усіх гэтых назваў, мне здаецца, з'яўляецца красамоўным адказам на абвінавачванні тэатра ў тым, што ён беларускамоўны, а не нацыянальны. Да таго ж лічу, што і пастаўленыя ў апошні час спектаклі па творах драматургаў іншых народаў («Дракон», «Памінальная малітва», «Вар'яцкае жыццё» і іншыя) перш за ўсё закранаюць самыя балючыя праблемы сённяшняга духоўнага жыцця менавіта беларускай нацыі. Гэтым, вядома, не здымаецца пытанне пра неабходнасць пастаяннай працы з нашымі драматургамі, трывалай сувязі з імі, — таму мы, як і заўсёды, будзем рады азнаёміцца з кожнай новай п'есай беларускіх драматургаў.

Як бачыце, у жыцці тэатра, як і ўвогуле ў сённяшнім жыцці,— даволі многа складаных праблем. Мне здаецца, сёння тэатру імя Я. Купалы патрэбна не столькі прыдзірлівая з усіх бакоў дробязная крытыка, часам заснаваная на старых догмах і стэрэатыпах, а канкрэтная, дзейсная, клапатлівая бацькоўская дапамога і з боку дзяржавы, і з боку многіх прадпрыемстваў і аб'яднанняў, якія мы запрашаем стаць нашымі спонсарамі. А нам застаецца як мага болей разнастаіць пошукі сваіх, уласцівых толькі тэатру, сцэнічных сродкаў выразнасці, працаваць над удасканаленнем сваёй мовы, свайго сцэнічнага майстэрства.

Гутарыў
Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ.

# ДА ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Беларусы ўсіх краёў, яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш яшчэ,
Як адступім,
Зломімся пад націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі ціснулі
І хадзіць хацелі, як па тлі.
Нас душылі Волгамі і Віслямі —
Кожны тужыў зашмаргу пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны, з Дзедзіны.
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены.
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, катавалі, пратталі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі,
Забойцы,
Імператары,
І бацькі працоўных мас,
Калі

Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны.
І магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.

Над святынямі пазруйнаванымі
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі,
А не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні!

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе,
Браты!
Дык адродзімся душой і верою.
З намі Бацька Бог
І дух святы!

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

# Сыноў бацькаўшчына сваіх кліча...

## Пошта адной публікацыі

Хвалю чытацкіх пісьмаў выклікалі «Зварот да беларусаў свету» і ліст старшыні Аргкамітэта згуртавання «Бацькаўшчына» Яўгена Лецкі (разам з невялічкай анкетай), змешчаныя ў «ЛіМе» 10 жніўня. Ідэя, пакладзеная ў аснову згуртавання, — садзейнічаць аб'яднанню беларусаў Савецкага Саюза і ўсяго свету з мэтай духоўнага, нацыянальнага адраджэння беларускага народа, усіх яго прадстаўнікоў, дзе б яны ні жылі, — знайшла аднадушную падтрымку нашых чытачоў. Лісты прыйшлі літаральна з усіх куткоў рэспублікі і краіны. Аўтары іх выказваюць пачуцці радасці і добрыя спадзяванні, якія звязваюць з дзейнасцю згуртавання «Бацькаўшчына», падкрэсліваюць, што толькі разам, супольна, агульнымі намаганнямі мы зможам адрадзіць, вярнуць да жыцця сваю мову, культуру, стаць народам са слаўнай і багатай гісторыяй, стварыць сапраўды вольную, незалежную дзяржаву Беларусь. Чытачы выказваюць гарачае жаданне прыняць удзел ва ўстаноўчай канферэнцыі, многія з іх пералічылі грошы на рахунак Аргкамітэта «Бацькаўшчына».

Вось ліст ветэрана Узброеных Сіл СССР, палкоўніка ў адстаўцы масквіча **В. Астаповіча.** Ён піша: «У Маскве нас, беларусаў, жыве больш за 60 тысяч, створана тут, як вядома, Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны. Але, на жаль, мы не адчуваем аніякай падтрымкі ад афіцыйных улад рэспублікі, у тым ліку і ад Пастпрадстаўніцтва БССР ў Маскве. Наша мара — пабудаваць у Маскве Цэнтр беларускай культуры, вакол якога маглі б гуртавацца ўсе прыхільнікі нашага нацыянальнага адраджэння». А далей аўтар ліста расказвае пра тое, як ён паслаў свае меркаванні і пажаданні наконт ажыццяўлення гэтай мары ў Вярхоўны Савет БССР, у Камісію па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, наогул па пытаннях адраджэння суверэннай Беларусі, яе народа і нацыянальнай культуры. І што? «Канверт я атрымаў з беларускамоўным аздабленнем, — з сумам працягвае В. Астаповіч, — але сам ліст за подпісам старшыні Камісіі мяне вельмі ўразіў. Я звяртаўся да Вярхоўнай улады маёй рэспублікі на беларускай мове, цяпер дзяржаўнай, а адказ мне пішуць па-руску. Большай непавагі да сябе я не чакаў...»

Чытачка з Рыгі **Н. Камілеўская,** адказваючы на пытанні анкеты, зазначае: «Ідэю згуртавання беларусаў (не толькі савецкіх, але і ўсяго свету) падтрымліваю і ўхваляю. Лічу, што надышоў той самы момант, калі аб'яднанне беларусаў свету — гэта пытанне жыцця. У нас, беларусаў Латвіі, ёсць асабліва яскравы прыклад — сусветнае згуртаванне латышоў, народа, што даў нам прытулак на сваёй зямлі. Мы маглі б многае ўзяць з вопыту іхняй работы».

У рэдакцыйнай пошце — лісты **І. Ляпіна** з Мурманска, **М. Пачабыта** з г. Бярдзянска Запарожскай вобласці («дапамога тутэйшым беларусам патрабуецца хоць бы ў тым, каб атрымліваць пастаянную інфармацыю пра падзеі на радзіме, пра яе помнікі, культуру, гісторыю»), нашага сталага чытача, ветэрана вайны і працы з г. Багародзіцка Тульскай вобласці **Я. Кохана** (ён пераслаў перавод на рахунак Аргкамітэта), пенсіянера з г. Ладыжына Вінніцкай вобласці **Г. Вярцінскага** (ён паведамляе, што пералічыў на рахунак Аргкамітэта 30 рублёў, і скардзіцца, што «за другое паўгоддзе мінулага года не атрымаў па падпісцы ніводнага нумара «ЛіМа», а сёлета ўжо не прынеслі двух нумароў «ЛіМа» і «Маладосці»)...

«Хто спазнаў, што такое настальгія, той зразумее мяне, мае пачуцці, з якімі я чытаў «Зварот да беларусаў свету» і ліст Я. Лецкі. Калі спатрэбіцца мая дапамога, буду рады дапамагчы», — піша **П. Якімчук** з г. Нарыльска Краснаярскага краю. «Згуртаванне «Бацькаўшчына» дапаможа з'яднаць свядомых беларусаў у імя таго, каб здзейснілася вялікая мара народа «людзьмі звацца», каб Беларусь займела свой твар і заняла годнае месца ў цывілізаваным свеце», — гэта радкі з ліста 27-гадовага рабочага з г. Харкава **У. Маркевіча.**

Чытач «ЛіМа» з украінскага горада Ковеля **Г. Бялкоўскі** свой допіс у рэдакцыю заканчвае такімі словамі: «Мая мара — вольная і незалежная Беларусь. Наш народ варты гэтага».

Адказы на анкету даслалі прарэктар Наўгародскага педагагічнага інстытута **У. Худніцкі, К. Мардзвінаў** з г. Чэлябінска, настаўніца з г. Капыля **Л. Марчэлава, Т. Талкачова** з г. Наваполацка (разам з квітком аб пералічэнні грошай на рахунак Аргкамітэта).

Як вядома, у многіх гарадах краіны створаны культурна-асветніцкія суполкі беларусаў, філіі ТБМ імя Ф. Скарыны. Лісты з такіх суполак і філій прыйшлі з г. Якуцка (**А. Баркоўскі,** суполка «Суродзіч»), з г. Магілёва (**І. Пушкін,** суполка «Машэка»), Гародні (**В. Варанец,** Рада ТБМ імя Ф. Скарыны), з г. Салігорска (**Л. Бойка,** суполка «Бацькаўшчына»), член Дэмакратычнай партыі Расіі са Смаленска **А. Кузьмянкоў** і многія, многія іншыя.

19-гадовая настаўніца музыкі з Салігорскай школы мастацтваў **А. Максімаўцава** выказвае спадзяванне, што са з'яўленнем згуртавання «Бацькаўшчына» яна не будзе адчуваць сябе такой адзінокай, бо «ў школе я адна беларускамоўная, і вельмі цяжка рабіць тое, што належыць рабіць: выхоўваць нашых дзетак на лепшых традыцыях і культурных здабытках тысячагадовай гісторыі Беларусі».

Даслалі адказы на анкету і нашы пастаянныя чытачы з Мінска кандыдат тэхнічных навук **А. Каўцэвіч, Н. Лабанава, І. Міронччык.**

Многія чытачы ў сваіх лістах выказваюць канкрэтныя прапановы. Так, сувязіст з Брэста **У. Рыбак,** расказаўшы аб тым, наколькі нізкая нацыянальная самасвядомасць у іхнім прыгранічным горадзе, піша: «Каб нешта зрушыць з месца, «Бацькаўшчыне» варта займець сваю радыёстанцыю. Гатовы ўзяцца за гэтую справу, гатовы працаваць бясплатна, «за ідэю». Спачатку можна было б арганізаваць радыёвяшчанне, а пасля і свой, незалежны тэлеканал...»

**А. Чыж** з Гомеля прапануе, каб «Бацькаўшчына» неадкладна падумала аб наладжванні свайго выдання. «Куды сёння ні павярні каня, — піша чытач, — усюды трэба араць. Рабіць жа гэта, урабляць нашу ніву трэба найперш праз выданне часопіса ці бюлетэня, прысвечанага пытанням асобы, сям'і, роду (ён і назву можа мець такую — «Наш род»), пытанням выхавання грамадзяніна, а значыцца, і пытанням захавання і развіцця нацыі...»

А на заканчэнне — ліст інжынера міжгародняй тэлефоннай сувязі з г. Масты Гродзенскай вобласці **І. Палубешкі:** «Мы павінны згуртавацца, каб вярнуць пачуццё нацыянальнай годнасці сабе, усім тым, хто нарадзіўся на гэтай зямлі, чые продкі мелі тут свае карані і каго лёс параскідаў па свеце. І няхай маленькая суполка беларусаў у далёкай Канадзе ці ў іншым месцы будзе прытулкам кожнаму вандроўнаму беларусу. Будзе тым месцам, дзе ён знойдзе не толькі куток для адпачынку, але сярод чужыны адчуе роднасць і еднасць душ. І каб кожны беларус, дзе б ён ні жыў, ведаў, што тут, на Бацькаўшчыне, яго сустрэнуць цёпла, прыхільна, ласкава».

Жыве Беларусь!

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі.**

# *З пошты гэтага тыдня*

●

Хачу падзяліцца некаторымі жыццёвымі, злабадзённымі развагамі, якія не даюць спакою апошнімі днямі.

Чалавек я ўвогуле забяспечаны, заробак мой вышэйшы, чым устаноўлены ў нас пражытковы мінімум. Шмат грошай ідзе ў мяне на кніжныя набыткі. Да апошняга часу гэтыя выдаткі не вельмі былі па кішэні. І падпісваўся я на два, нават і на тры дзесяткі найменняў газет і часопісаў. Меркаваў, што гэтаксама будзе і на наступны год. Акрамя ж «Литературной газеты», «Комсомольской правды», «Советской культуры», «Аргументов и фактов», «Нового мира», «Огонька», «Знамени юности», «Дружбы народов», хацелася б сачыць і яшчэ за шэрагам выданняў, якія друкуюць ці будуць друкаваць творы А. Салжаніцына, М. Алданава, С. Сакалова, І. Бродскага, шмат цікавых твораў сучасных савецкіх пісьменнікаў. А як не выпісаць нашы беларускія выданні — «Полымя», «Маладосць», «Крыніцу», «ЛіМ», «Нёман», «Спадчыну», Чырвоную змену», «Звязду»?

Вядома, я цяпер таксама нешта выпішу. Але, безумоўна, на шмат менш, чым у мінулыя гады. А што рабіць людзям з меншым заробкам?

Лічу, што такое становішча — гэта і «ўдар пад дых» адраджэнню беларускай мовы і культуры. Эротыка, секс, нізкапробныя дэтэктывы, пікантныя падрабязнасці з жыцця «людзей свету» — вось што зараз будзе браць верх у друку.

Мне здаецца, што ў першую чаргу трэба ратаваць выданні, якія змагаюцца за адраджэнне беларускай мовы, нашай культуры і спадчыны. Калі мы зараз зменшым колькасць падпісчыкаў «Полымя», «Маладосці», «ЛіМа», «Беларусі», «Спадчыны» (а пры значным павышэнні цэн на іх так і здарыцца), то спынімся на месцы. Таму і не абысціся зараз без датацый. А павінны яны пайсці ад усіх зацікаўленых арганізацый. Галоўнае ж — датацыя дзяржавы. Інакш цераз год ці два мы будзем губляць грошы ў змаганні з бездухоўнасцю яшчэ большай, яшчэ страшнейшай.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,**
**ваенны журналіст.**

●

Што здарылася? Чаму сёння, калі ўступіў у сілу Закон аб мовах, наша райгазета «Камуніст» пачала друкавацца і на рускай мове? Вясковаму чытачу, а чытаюць яе пераважна вяскоўцы, беларуская мова больш блізкая, зразумелая.

Пазваніў у рэдакцыю. Мне адказалі, што зроблена гэта дзеля таго, каб заахвоціць гараджан падпісвацца на газету.

Няўжо толькі таму пад назвай газеты з'явіўся надпіс «Выдаецца на беларускай і рускай мовах»? Да чаго прыводзіць такі крок, мы добра ведаем. Такія гульні канчаюцца тым, што ў хуткім часе і наша раённа стане рускамоўнай.

**М. КАНАШ.**

г. Жлобін.

●

Не так даўно ў газеце «Звязда» я прачытала аб тым, што кошт праезда ў метро ўзрасце ў два разы. Тлумачыцца гэта тым, што метро працуе на датацыі, і прыводзіцца лічба 7,2 кап.— кошт адной паездкі. Прабачце, гэтаму я не веру. Калі не паленавацца і падняць падшыўку «Звязды» ці «Советской Белоруссии», то можна знайсці пераможны рапарт кіраўнікоў Мінскага метрапалітэна, дзе сцвярджалася, што ўжо за першы год эксплуатацыі метро акупіліся ўсе выдаткі.

Такі ж самы крок наважвалася зрабіць і Маскоўскае метро. Аднак калі ва ўсім дасканала разабраліся («Литературная газета» ў № 33. 15.08.90), дык аказалася, што ва ўсім вінавата безгаспадарчасць работнікаў метрапалітэна.

Таму, думаецца, што і Мінскаму метрапалітэну варта спачатку добра разабрацца, у чым справа, а потым ужо вырашаць, што рабіць. І пры гэтым неабавязкова вытрасаць кішэні пасажыраў.

Апошнім часам я прыкмячаю, што, ідучы да рынкавай эканомікі, усе стараюцца вырашаць свае праблемы за кошт спажыўца. Першы крок у гэтым напрамку зрабіла наша ўлада, павялічыўшы заробак кіраўнікоў розных рангаў удвая-ўтрая. Так, яны ўжо забяспечаны ад нечаканасцей рынкавай эканомікі. Няўжо нашы эканамісты не разумеюць, што, нічога не змяніўшы ў прамысловасці, павялічваць кошт тавараў — гэта крок у бездань? У рынкавай эканоміцы галоўнае не высокія цэны, а барацьба за дасканалую тэхналогію, за паляпшэнне якасці тавараў, за зніжэнне сабекошту, каб тавары змаглі вытрымаць канкурэнцыю. А цяпер ідзе барацьба, каб больш узяць з кішэні спажыўца. І гэта робіцца таму, што мы, спажыўцы, не задумваемся над сваім становішчам, а пакорліва падстаўляем свае бакі, каб нас было спрытней стрыгчы, як тую авечку.

Чаму са сваёй кішэні мы павінны аплачваць безгаспадарчасць, нядбайнасць ці проста бяздзейнасць? Хто падбае пра простых працаўнікоў, пенсіянераў, студэнтаў? Бо нават і тыя людзі, у каго заробак пад 200 рублёў у месяц, скоцяцца ў бездань жабрацтва.

**В. РАК.**

г. Мінск.

●

Літаральна некалькі дзён таму назад я з сябрамі вярнуўся з вандроўкі па Віленшчыне. Тое, што мы ўбачылі, наведваючы музеі і выставы ў Вільні, пачулі ад людзей, вельмі ўзрушыла нас, а прыехаўшы дадому, прачыталі артыкул А. Цітова «Як вырашаўся лёс Віленшчыны» ў газеце «Голас Радзімы» і вырашылі напісаць вам.

За некалькі тыдняў на «літоўскай» зямлі мы не знайшлі ніводнага ўзгадвання пра Беларусь і беларусаў ні ў адным з музеяў Літвы, хаця для ўсіх іншых народаў — рускіх, татар, яўрэяў, украінцаў, палякаў і караімаў — месца знайшлося. Яшчэ больш абразілі надпісы пад экспанатамі і на мемарыяльных шыльдах на рускай мове: Костакас Калинаускас, Франтишкас Багушавичус, Барбара Радвилайте, Адамас Мичкявичус і г. д. Што гэта, своеасаблівае бачанне гісторыі альбо спроба ўзвысіцца, прыніжаючы іншых? Як растлумачыць той факт, што на карце ў Віленскім гістарычным музеі пад назвай «Тэатры і навучальныя ўстановы Літвы ў перыяд сярэднявечча» адзначаны не толькі Мінск, Вільня, Гародня, Нясвіж і Полацк, а і Кіеў? Такое ўражанне, што літоўскія навукоўцы не ведаюць гісторыі Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Але ж гэта не так, усё робіцца свядома! Размаўляючы з вяскоўцамі на Віленшчыне, мы даведаліся, што падобныя праблемы хвалююць і іх. Дарэчы, яны нагадалі нам, што беларускія школы зачынялі ўжо пасля перадачы Віленшчыны Літве, а яна амаль год заставалася незалежнай дзяржавай. Але ж, як вядома, на тэрыторыі Віленшчыны кампактна жыве 62 тысячы беларусаў (вынікі апошняга перапісу), а літоўцы пераважаюць толькі ў асобных раёнах самой Вільні.

Усе мы ведаем, што рыхтуюцца перамовы кіраўніцтва СССР і Літвы, ведаем гісторыю Віленшчыны і праўду пра яе далучэння да Літвы. Дык, можа, кіраўніцтву Беларусі варта далучыцца да гэтых перамоў? Тым больш, што ўсе мы ведаем нядаўнюю заяву ўрада БССР аб Віленскім краі і прынятую Вярхоўным Саветам БССР «Дэкларацыю аб суверэнітэце Беларусі».

**Па даручэнні сяброў**
**Сяргей ГОРБІК.**

г. Мінск.

## Кастусь ІЛЬЮШЧЫЦ



Кастусь Ільюшчыц нарадзіўся ў вёсцы Рог на былой Старобіншчыне. Пасля заканчэння Беларускага тэхналагічнага інстытута злучыў свой лёс з Савецкай Арміяй. З гэтым звязана яго знаходжанне на Далёкім Усходзе, у ГДР, Эстоніі. Зараз ён служыць у Літве.

Першыя вершы надрукаваў у свой час у «ЛіМе».

Яго пяру належаць два зборнікі вершаў «Армейскія будні» і «Таежны гарнізон». Сёння штотыднёвік адрасуе чытачам новыя творы паэта.

### Фотаздымак

У альбоме ляжыць фотаздымак, —
Ён старэйшы на год за мяне.
На ім бацька стаіць у абдымках
Сябрукоў на апошняй вайне.

У заломанай хвацка кубанцы,
З баявым медалём на грудзях —
Хтосьці бацьку зазняў на палянцы,
У палескіх блакадных гаях.

Фотаздымак ваеннай часіны
Парыжэў і пабляк за гады.
Мой двайнік — ён на свеце адзіны—
Маладым застаецца заўжды.

Мабыць, фота матуліны слёзы
Раз'ядалі ў халодныя дні,
Калі бацька упаў пад бярозы.
Не вярнуўся з Айчыннай вайны.

Ці не змог партызанскі фатограф
Закрапіць тады здымка свайго, —
І папера счарнела ад гора
Той вайны і сіроцтва майго...

### Акоп

Окоп копаю. Может быть — могилу.
**В. СУБОЦІН.**

Вялікай сапёрнай лапатай
Я грукаў у грудзі зямлі.
І рукі струною напятай
Ад стомы натужна гулі.

Кратом зарываўся паволі
Углыб таямнічных вякоў
І бачыў у грунце даволі
Сапрэлых касцей чужакоў.

І продкаў замёрзлыя цені,
Сляды пад гарачай крывёй,
І цэлых эпох наслаенні
Зрушаліся працай маёй.

Я дыхаў трывожна, журботна,
Здурэлы ад паху крыві.
Як часта я жыў бясклапотна,
Як праўдаю часта крывіў.

Вялікай сапёрнай лапатай
Вучыўся лапаціць зямлю,
Адкопваць жытло для салдата —
Акоп... ці магілу сваю.

### Права

У кожнага ёсць у жыцці
Адно неад'емнае права
На свой п'едэстал узысці,
Уласнай узведзены Справай.

Якія б пасты ні займаць,
Якая б ні ўзносіла Слава,
А слабага ўмець падтрымаць
У дужага — вечнае права...

•

Я — дзяржаўны чалавек,
Радавы салдат пяхоты...
Свет праз засланкі павек
Разглядаць няма ахвоты.

Без каманд — не зробіш крок,
Кожны рух мой на прыкмеце...
Я — узведзены курок
На дзяржаўным пісталеце.

### Жывём, як нумар адбываем...

Жывём, як нумар адбываем,
Хоць на Зямлі з нас кожны госць.
І невядома, што спяваем,
І невядома, хто мы — ёсць.

На тварах нашых стынуць маскі
Турбот сучасных і падзей.
Мы ганім слова роднай казкі,
І ганім шчырасць у людзей.

Спярша пакінула нас Вера,
Пасля Надзея і Любоў. —
У чалавека, як у звера,
З ружэйных цэлімся ствалоў.

Як дзеці, дзівімся у лесе
Мы на заечыя сляды,
Нібыта мамант на Палессе
Прыдыбаў з вечнай мерзлаты.

Паветра поўніцца азонам,
Азонам поўніцца Сусвет.
Які наступны мёртвай зонай
За дрот схаваем сельсавет?!.

Зрабіўшы проста ці няпроста
Апошні крок да забыцця,
Аднойчы скурчымся бяростай
У згаслым полымі жыцця...

Алесь АЛЯШКЕВІЧ

# Жылі-былі бабуля і ўнук

АПАВЯДАННЕ-БЫЛЬ

БЫЎ ціхі ясны студзеньскі дзень. Сонца ўзнялося ў свой зімовы зеніт, але амаль не грэла. Навокал на палях і лугах белым цукрам іскрыўся нечапаны снег. Аж да самага Нёмана.

Узышоўшы па вытаптанай праз поле сцяжынцы на невялікі пагорак, Клаўдзея Ануфрыеўна скінула з пляча сумку з хлебам і прыхінулася да пакрытага наледдзю вялікага халоднага каменю, што ляжаў тут колькі сябе помніла.

Ішла яна без перадыху кіламетры тры, ад самай сярэдзіны цэнтральнай сядзібы калгаса, дзе быў адзіны на ўсю акругу магазін, і прытамілася: ногі ўжо не тыя, не хочуць слухаць. Ды дзіва што — за сёмы дзесятак перавaліла. Хоць да яе хацінкі адсюль было рукой падаць, аж усю дарогу без перадышкі не адолела.

Хатка, старая, прыземістая, з дзіравым дахам і замшэлымі сценамі, стаяла трохі ў баку ад вёскі. На прыпарушаным снегам пагорачку каля ніцага пералеску здавалася яна здалёк сірацінай, што выпадкова зайшла туды. Яшчэ ў мінулым годзе восенню заязджаў да яе старшыня калгаса, прапаноўваў пераехаць у вёску ў новую аднапакаёвую кватэру, але Клаўдзея Ануфрыеўна наадрэз адмовілася. Яно, відаць, было б там ёй лепш, усё побач: крама, пошта, службы ўсялякія. І да людзей бліжэй. Было б з кім перакінуцца слоўкам. Весялей, што ні кажы, чым адной. І дамы ладныя будуе цяпер калгас: двухпакаёвыя, з вялікімі гаспадарчымі прыбудовамі. І газ прыродны ў іх, і каналізацыя. Ні паліць не трэба, ні па ваду хадзіць. Але міла ёй была свая хатка. Вельмі памятліва прайшло ў ёй усё жыццё Клаўдзеі Ануфрыеўны. І хатку, пабудаваную яшчэ яе дзедам, пакідаць было шкада.

У гэтай хатцы яна нарадзілася, прайшло тут дзяцінства, цяжкае і галоднае, рана памёр бацька. Сюды яна вярталася пасля знясільваючай парабчанскай працы ў заможных аднавяскоўцаў пры панскай Польшчы. Тут яна справіла і вяселле са статным чубатым хлопцам, якім быў яе Васіль. Але шчасця з ім доля адпусціла нядоўгага. Муж аказаўся працалюбівым, клапаціўся пра сям'ю і гаспадарку. Хату падрамантаваў, паднавіў усярэдзіне, паставіў новы хлеў, абгарадзіў сядзібу. На гэты час прыйшла ў іх прынёманскі край Савецкая ўлада, надзяліла ўсіх зямлёй, хто не меў яе. Пабольшала дастатку ў хаце. Нарадзіла яна Васілю дзвюх дачок. Здавалася, жыві ды радуйся...

А тут вайна праклятая. Як пайшоў яе Васіль з адступаючым войскам, дык і па сённяшні дзень няма. А ў самым канцы лютага ліхалецця памерла яе старэнькая маці. І засталася яна ўдавой з двума дзеткамі на руках. А ці трэба расказваць каму, якое цяжкае было пасляваенне— спусташэнне навокал. Але ўсё ж здужала, выстаяла, дачок на ногі паставіла. Спадзявалася, што на старасці памочніцамі і апорай будуць, смерці дагледзяць. А яны выраслі, выпырхнулі з роднага гнязда і паляцелі, як пералётныя птахі. Век такі — усе маладыя шукаюць шчасця на старане, уцякаюць у горад. І засталася яна адна-адзінокая.

Дочкі, праўда, яе не забывалі, наведвалі. Старэйшая дык радзей. Надта ж далёка забралася ад роднай хаты, аж на Урал, у Свярдлоўск. Завербавалася на будоўлю, там і замуж выйшла, і кватэру атрымала, і двух унучкаў нарадзіла. Нядаўна пісьмо прыслала. Піша, што купілі машыну. На лета сваім ходам збіраюцца прыехаць у госці. Усё, дзякаваць богу, ладком у большанькай, у Марусечкі. А вось у меншай...

Успомніла пра яе і заныла сэрца ў Клаўдзеі Ануфрыеўны.

Пакуль не складваецца штосьці жыццё ў яе меншанькай, Сонейкі. І быццам недалечка ад яе сваё гняздзечка звіла дачушка, зусім побач з радзіннай старонкай, у Мінску. Але не ва ўцеху ёй пакуль гарадское жыццё. Ледзьве ўладкавалася на працу, як замуж выйшла, а года не пражылі — разышліся. Потым другі раз выйшла. І зноў штосьці няма ладу. Муж да работы не падкі, усё больш у чарку глядзіць. З-за гэтага свет гарыць. То разбягаюцца, то збягаюцца. А маленькаму ж іх, унучачку яе, ужо два годзікі. Хутка разумець пачне. Няўжо і яго чакае праклятая бязбацькаўшчына?

А яшчэ Клаўдзея Ануфрыеўна нядаўна пачула, што быццам бы яе Сонейку хтосьці з аднавяскоўцаў бачыў у Мінску на вуліцы п'янаю... Божа літасцівы, няўжо праўда?! Але не, быць такога не можа. Не хочацца верыць, што яе крывіначка дойдзе да такога. Нагаворваюць злыя людзі, і толькі. Цяпер жа няма бога ў сэрцы, чужая бяда радуе. Вось неўзабаве дачка кватэру павінна атрымаць. Тады, можа, і стане ўсё на месца. Свой куток шмат значыць, а там, глядзіш, і мужык астадоліцца. Адразу, як пажаніліся, не піў жа. Ды і пара яны адно аднаму. На вяселлі ўсе людзі імі любаваліся. Пажыць бы яшчэ гадок-другі. З пенсіі, з двара якую б капейку агорала, памагла б на абстаноўку. Усё ж лягчэй будзе дачцэ. Адна бяда—здае апошнім часам здароўе: і ногі цяжэюць, і ў руках няма былога спрыту. А на мінулым тыдні і сэрца было зайшлося. Дакторка сказала, берагчыся трэба. А за кім жа ты паберажэшся? Гэтай ноччу во сон сніла. Дрэнны, страшны сон. Але хай бог мілуе.

Падумаўшы гэтак, Клаўдзея Ануфрыеўна цяжка ўздыхнула і перавяла позірк на сваю хацінку.

І сэрца як абарвалася.

У двары каля хаткі нехта тупаў. Мужчына гэта быў ці жанчына, здалёк не разабраць. Але там хадзіў чалавек. Упэўнена, быццам здавён ведаў кожную сцежку каля хаты. Дык то ж не чужы, нехта са сваіх. Каму ж там быць, акрамя Сонейкі, меншанькай яе?! Большая як-ніяк, а цяпер прыехаць не магла. Па ўсім выходзіць, яна, Сонейка, прыехала адведаць старую маці. Лёгкая на ўспамін! Але чаму сярод тыдня? Можа, адгул на рабоце ўзяла?

Клаўдзея Ануфрыеўна паспешліва, аж хістанула ў бакі, закінула за плечы сумку і таропка пайшла дадому.

Падышоўшы да плота, зразумела, што не пазнала. Хаця, праўда, і не зусім так. Прыехала не Сонейка. Гэта быў Антон, яе мужык, зяць Клаўдзеі Ануфрыеўны. Рослы, мардаты, у доўгім чорным паношаным паліце, што і збіла яе з тропу: здалёку здалося, што гэта шубка меншанькай. І быў Антон не адзін, а з двухгадовым Іванкам, яе ўнучкам. Няўмела захутанае ў коўдру, дзіця сядзела ў саначках для немаўлят, што стаялі ля парога, і нявінна пазырквала сваімі маленькімі вочкамі па баках. Яно яшчэ мала што разумела.

Зяць сустрэў цешчу прыветна. І супраць яе боязі — цвярозы.

— А, маманя. Добры дзень. Нарэшце і вы. А мы тут з Ванькам ужо зачакаліся вас. З гадзіну як прыехалі. У магазін, значыць, хадзілі хлеба купіць...

Клаўдзея Ануфрыеўна згодна кіўнула. Да гэтага часу адносіны з зяцем былі ў яе немудрагелістыя. Уласна, іх амаль і не было. Прыязджала з ім Сонейка не часта, разы тры-чатыры, ад сілы пяць. Ды і то кожны раз ён быў нецвярозы. А пра што ж гаварыць з п'яным? Перакінуцца некалькімі парожнімі фразамі, а паразумення няма, як і не было. Да гэтага часу яна толкам не ведала нават адкуль ён родам. Чула ад Сонейкі, што аднекуль з Расеі. А Расея ж вялікая. І цяпер не знаходзіла як паводзіць сябе з зяцем, пра што гаварыць з ім, цвярозым: сур'ёзна, добразычліва ці па-ранейшаму насцярожана, няпэўна?

Скінула з плячэй сумку, павіталася з Антонам, падышла да ўнучка, нагнулася, пацалавала малога, узяла на рукі, павярнулася да зяця.

— Што ж ты дзіцёнка столькі марнуеш на холадзе? Хата не замкнёна, — з папрокам, але без крыўды ў голасе прамовіла яна і, ступіўшы на парог, дадала, адрасуючы пытанне не то зяцю, не то ўнучку: — А чаму ж мамка твая не прыехала, крывінка ты наша?

Зяць, што пайшоў услед за ёю з сумкай у руках, прамовіў нешта няпэўнае:

— Ды так... Увогуле... Клопат у яе, маманя. А за Іванку моцна не клапаціцеся. Ён да холаду прывычны. А вось хатка ваша, бачу, зусім абсунулася.

У душы Клаўдзеі Ануфрыеўны варухнулася нядобрая трывога. Адказ

## Мая родная мова...

Пад варожай навалай,
Чужаземнаю змовай
Не жыла — вымірала
Мая родная мова.

Горла цісную нам туга
Час вяроўкай пяньковай,
Каб хадзіла ў прыслугах
Беларуская мова.

Адпявалі чыноўна,
Як на трызне, прамовай,
Што згубіла чароўнасць
Мая родная мова.

На расейскіх узмежках,
У астрожных умовах
Не забыла насмешак
Беларуская мова.

Пульсавала навокал
І была, як замова
Ад зласлівага вока,
Мая родная мова.

Уваскрэсла з нябыту,
Як уток і аснова,
Як жыццёвы набытак,
Беларуская мова.

Хай крынічкаю весняй,
Хай завеяй зімовай
У душы гучыць песняй
Мая родная мова.

Каб як маці, ашчадна
Шанавалі мы Слова,
Для мяне, для нашчадка
Стань — НАРОДНАЮ, мова!..

## У кожным з нас Ямеля...

У кожным з нас Ямеля
І міг, і век жыве,
Ды слоў дарма не мелем, —
Так лепей галаве.

На дне дубовай бочкі
Ад лета да зімы
Ляжалі, як грыбочкі
Ў чаканні свята, мы.

І нас не турбавала
Пустая гамана:
Было б да бульбы сала
І шклянaчка віна.

Таўклі ваду у ступе,
І верыў кожны з нас:
Пасля прамоў наступіць
Дзяржавы зорны час.

А зараз на пахмелле
Пустая ў нас кішэнь
І люд што хоча меле,
Хоць б'юць яго ў каршэнь.

Нам даспадобы права
Штодня мітынгаваць,
Налева ды направа
Уладу шальмаваць.

І вось народ рахманы
Кусае — чуць крані...
Ці не таму схаваны
Глыбока карані

Усіх няўзгод і бедаў
У ямах Курапат.
Мы выйшлі ўсе з камбедаў, —
Куды — не знаем нат.

Згубілі, што займелі,
І лёгка за гады
Уласны свой займеннік
Забылі назаўжды...

Не сквапныя па складу
І сэрца, і душы,
Мы дзелім сённяшнюю ўладу,
Як медныя грашы.

Жывём жа, як працуем, —
Працуем, як жывём.
Пад спеў чужы танцуем
І хлеб чужы жуём.

Ямеля смела меле, —
Аж кругам галава.
Прыйшла яго нядзеля,
А там — хоць трын-трава...

## Я — салдат

Я—салдат... Я—маю званне.
Я—даўно не радавы...
Бараніць — маё прызванне,
Права біць — займелі вы.

Я—салдат... Нашу я боты...
Шмат каго іх будзіць грук,
Каб свае ўзваліць турботы
На бязмен салдацкіх рук.

Я—салдат... Стаю адкрыта.
Я—для ўсіх франтоў мішэнь.
Той, хто еў з майго карыта,
Мне не цэліць у каршэнь.

Я—салдат... Я пад Прысягай
Раздзяліў краіны лёс.
На скалечаных абсягах
Я жыву, як гончы пёс.

Я—салдат... Спяваю песні, —
Нараўляю старшыне.
Свет, як танк сучасны, цесны,
Не да песняў зараз мне...

## У краі маім...

У краі маім
Яшчэ чуваць, як вецер
Спявае ў рачных трыснягах
Самаробнаю дудкай
Дзядзькі Сымона...
У краі маім
Яшчэ не замоўклі
Самотныя песні
Чырвонага бору
У былой партызанскай зоне...
У краі маім
Яшчэ не высахлі да дна
Крыніцы з гаючай вадой,
Якія пульсуюць з нетраў зямлі
Крывёй далёкага прашчура...
У краі маім
Усё радзей і радзей
Можна пачуць
Матуліна слова...
У краі маім
Толькі ў горы людскім
На волю, як птушка, адчайна
З душы вырываецца
Беларуская песня...
У краі маім
На вясковым пагосце
Побач з цярплівымі продкамі
Пахавайце мяне...
У краі маім
Хай нашчадак мой вечны
На магільнай пліце
Без памылак напіша:
— Тут пахаваны
Кастусь Ільюшчыц.
Год нараджэння —
Студзень 1947...

---

зяця падаўся ёй падазроным. Ці не пасварыліся там? Але далей распытваць пакуль устрымалася. Калі што і здарылася ў іх паміж сабой, то сам скажа. А пра хату падумала: «Заўважыў нарэшце. І на тым дзякуй. А калі б быў самавіты, пасобіў бы, падрамантаваў».

Яны зайшлі ў невысокія сенцы, абабілі ад снегу ногі, прайшлі ў хату. Клаўдзея Ануфрыеўна пасадзіла Іванку на крэсла, расхутала, пагрэла ў сваіх яго ручкі. Хлопчык пазіраў на яе даверліва, мабыць пазнаў, бо праказаў па складах мілым галаском: «Ба-ба, ба-ба». Ды так, што сэрца ў бабы нібы аб'ехала ад замілавання. Вельмі ж яна любіла свайго ўнучка. Хаця, якая баба не любіць унукаў: гэта яе радасць і ўцеха на старасці! І натуральна, што Іванка здаваўся Клаўдзеі Ануфрыеўне самым прыгожым з усіх дзетак, што перабачыла на сваім вяку. Стройненькі, белагаловы, з нявіннымі светла-блакітнымі вачанятамі, з прыпухлымі як бы ў капрызулі губкамі. Лялька дый годзе.

— Вы пакармілі б яго, маманя, — распранаючыся, сказаў зяць, — ён ад ранку галодны.

Бабка схілілася над унукам:

— Іванка есці хоча. Няшчаснічак мой. Ад раніцы без крошкі ў роціку. Зараз, зараз пакормім нашага галубка.

Дзіця ўсё тым жа тоненькім і мілым ёй галаском прапела ў адказ: «Баба, ам-ам».

На свае два годзікі ён размаўляў слабавата, ды і вельмі ўжо спакойны быў для хлопчыка. Але Клаўдзея Ануфрыеўна асабліва не перажывала з-за гэтага, ведала, што рана ці позна дзіця возьме сваё. Вунь яе старэйшая, Маруська, амаль да трох гадкоў не размаўляла і нічога, вырасла, ва ўсім дагнала аднагодкаў. Дай бог толькі здароўе...

— Зараз, зараз, мой родненькі, — прамовіла яна замілавана. — Баба табе манную кашку зварыць.

Яна падышла да пліты — балазе нездарма пазамінулы год абівала парогі многіх кабінетаў, каб ёй газ правялі — пачала варыць кашку, а заадно і зяцю смажыць яечню. Трэба думаць, што і ён прагаладаўся. Вочы, вунь, што ў воўка блішчаць.

Увесь гэты час зяць назіраў за цешчай з кутка, з шырокай лавы, што стаяла там, хмурыўся нейкім сваім невясёлым думам. І Клаўдзеі Ануфрыеўне ад гэтага было трохі не па сабе, не прывыкла яна бачыць яго цвярозы позірк.

«І ўсё-такі, чаму гэта прыехаў ён адзін, без Сонейкі, пасярод тыдня? — падумала яна. — І сядзіць хмара хмарай. Ой, чуе яе сэрца, не так гэта ўсё».

Сасмажыўшы, яна падала зяцю на стол яечню, нарэзала на другую талерку салёных агуркоў і сала, затым накарміла ўнучка, завяла яго ў другі пакой, паклала спаць і вярнулася да Антона.

Той сядзеў, ежы не чапаў, відаць, чакаў яе.

Як толькі Клаўдзея Ануфрыеўна прысела да стала, зяць палез у адтапыраную кішэню пінжака, звычным рухам выцягнуў адтуль бутэльку віна, якую, па ўсёй верагоднасці, прывёз з сабой з горада, бо ў іх у наваколлі спіртнога не прадавалі ўжо гады тры, з таго самага першага дня, калі пачаўся новы віток барацьбы за цвярозасць. Дастаўшы пляшку, Антон прынёс з кухоннай шафы шклянкі, паставіў усё на стол.

— Ну, што ж, маманя, прапусцім па маленькай, — сказаў ён. — Дактары сцвярджаюць, што пасля гэтага самага страўнік лепей ежу засвойвае...

Клаўдзея Ануфрыеўна адсунула свой посуд.

— Мне не трэба, — сказала яна. — Ды і табе, сыночак, можа, таксама не на карысць будзе? — з просьбай у голасе дадала яна.

— Вы як хочаце, а мяне прабачайце, маці. Другі дзень ужо трываю. А колькі таго жыцця? Ды і тое дрэнь. Адна ўцеха — вось яна, — вачыма паказаў ён на бутэльку і, паднёсшы да роту напоўненую шклянку, выпіў.

«Ну вось, зноў за сваё, — спахмурнела Клаўдзея Ануфрыеўна. — Ох і нялёгка ж даводзіцца Сонейцы з ім. Няшчасная яе долечка...»

Згадка пра меншанькую прымусіла яе зноў вярнуцца думкамі да неадчэпнага: чаму не прыехала сама? Добра, калі па рабоце не атрымалася. А калі зноў пасварыліся?! А ці і яшчэ горш — захварэла! Злягла яе любачка? Яна ўздыхнула, крыўдліва падумала пра зяця: «Сядзіць, быццам у рот вады набраў, хоць бы слоўкам пра яе абмовіўся».

Счакала, калі той добра прыкусіць і спытала мяккім даверлівым голасам, бо ўжо нельга было трываць:

— А Сонейка, Антон, чаму не прыехала? На рабоце?

Зяць адклаў відэлец, узняў галаву. Твар яго стаў чырвоным. Віно, відаць, ужо прабрала.

— Сучка ваша Сонейка, маманя. Даруйце за выраз.

Зноў наліў поўную шклянку, залпам выпіў, выцер рукой губы, дагаварыў:

— Гуляла, маманя, ваша Сонейка і да мяне, яшчэ пры першым мужы, і пры мне. І выпіць была моцна ахвоча... Вы не заўважалі, бо да вас прыязджала цвярозая, трымалася, саромелася, напэўна, бач.

Ён гаварыў усхвалявана, таму здавалася, што хоча выказаць усё адразу.

— А ўчора вось зусім сышла да свайго новага хахаля. Сабрала рэчы, пацалавала Іванку і пайшла... А я ж любіў яе... І, можа, праз яе і п'ю лішне... Пра Іванку сказала: няхай тыдзень-другі пры табе пабудзе, ты ж не чужы — бацька. Уладкуюся — забяру. А куды я з ім? Я ж па сутках працую, самі ведаеце. Вось і прывёз яго пакуль да вас. Да маіх далёка, цэлых чатыры дні ехаць. Вы, можа, думаеце, што я ўсё хлушу, маманя, думаеце, заліў вочы і нясе абы-што? Але самі памяркуйце, навошта мне на сябе нагаворваць?!

У адказ Клаўдзея Ануфрыеўна толькі злёгку кіўнула. Нешта сказаць не знайшлося сілы. Пачутае надкасіла яе, нібы ўкус гадзюкі.

— Адным словам, няхай Іванка з які тыдзень у вас пабудзе, — дагаварваў зяць. — Я, магчыма, вазьму адпачынак, забяру яго, адвязу да сваіх... Ну і мне самому ўжо час збірацца. Наступны аўтобус будзе позна. Так што выбачайце, калі што не так сказаў.

Ён вылез з-за стала, апрануў паліто, надзеў шапку.

Цяжка ўзнялася з лавы і Клаўдзея Ануфрыеўна, выйшла ўслед за зяцем на двор праводзіць яго.

Той спыніўся, сышоўшы з парога, зірнуў на цешчу. Яна была бледная, як белае палатно, згорбленая, з усохлымі вачыма. Раптам яму стала шкада яе — нечакана ўспомнілася родная старэнькая маці.

— Вось як, маманя, атрымліваецца, — сказаў ён. — Дзве дачкі ў вас, а вы адна-адзінокая, радасці вам ад іх ні грама...

Ён хацеў яшчэ нешта сказаць старой, у яго было многа розных слоў: для абыходжання на рабоце з карашамі, начальствам, жонкай, з сабутэльнікамі. Але тых слоў, якія яму цяпер захацелася сказаць цешчы, хутка знайсці ён не мог. Так і пайшоў ад яе, злёгку пахістваючыся, да вёскі.

Клаўдзея Ануфрыеўна яшчэ доўга стаяла, пазіраючы яму ўслед. Але потым, застыўшы на дварэ на марозе, што браўся нанач, пайшла ў хату.

У хаце не ведала, за што ўзяцца, што рабіць. Дзеля нечага адамкнула шафу, штосьці шукала, а што — не ведала. Выйшла ў сенцы, вярнулася, прыбрала са стала, вызірнула ў акно. Сонца села, неба на захадзе чырванела, як жар, быццам дагарала ў печы. Вечар і ноч павінны былі быць марознымі.

«А не хлусіў жа, казаў праўду, — раптам падумала яна пра зяця. — І людзі-такі не манілі, праўду казалі пра Сонейку. Чыстую праўдачку. Вось і вяселле яе ўспамінаецца. Пад канец так напілася, што ледзь ўратавалі гуртам. Тады падумала, што ад радасці гэта, ад шчасця памылілася, не разлічыла сілы. Аж, выходзіць, невыпадкова. Не, невыпадкова ўсё...»

Адышоўшы ад акна, Клаўдзея Ануфрыеўна цяжка апусцілася на лаву.

«Што ж гэта такое, — апаноўвалі дакорлівыя, горкія думкі. — Соня-Сонечка, крывіначка, сонейка... Як жа я прагледзела цябе, што не гэтак зрабіла? Ой, бяда-бяда. Божа літасцівы, за што ты пакараў мяне так на старасці? І што ж цяпер будзе?.. Калі мужчына, і то куды ні ішло, а то жанчына ў гарэлку кінулася... Да другога збегла, дзіця кінула. Ні сям'і, ні жыцця людскага ў самой, ні ў дзіцяці...»

Ад апошняй думкі Клаўдзеі Ануфрыеўне як прыпякло сэрца. Рукі і ногі наліліся цяжкім жалезам, адзеравянелі. У вочы шыбануў туман, усё паплыло... Яна прыхінулася да сцяны.

У цішыні пачуўся голас унучыка, які прачнуўся, і на нейкі час апрытомніў яе. Яна паспрабавала прыўзняцца, падумаўшы, што гэта ж яна зусім забылася пра хлопчыка. Але сілы ўжо не было, яны паволі пакідалі яе састарэлае спрацаванае цела. Апошняе, пра што паспела падумаць, гэта пра незачыненыя дзверы з хаты ў сенцы — каб хаця не прастудзілася яе маленькае птушанятка...

А яно, неразумнае, прыпаўзло, сплакаўшыся, з суседняга пакоя і цягала бабу за яе доўгую спадніцу, нібы прасіла прачнуцца, клікала сваім танюткім галаском: «Ба-ба, ба-ба!..»

З міліцэйскага пратакола:

«У вёсцы Л. у доме пад нумарам 132 знойдзены два трупы: грамадзянкі Н., гаспадыні дома, і грамадзяніна Р., яе ўнука. Цела першай знойдзена ў доме, другога — у сенцах каля пакусаных буракоў.

Зыходзячы з таго, што смерць абаіх наступіла ў выніку няшчаснага выпадку, ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць грамадзян Р. адмоўлена...»

**Разам з артыкулам аўтар даслаў у рэдакцыю ліст, у якім піша: «14.06.90 г. «Літературна Україна» надрукавала гэты мой артыкул «Устаньма з каленяў!» (ганарар я перавёў у блакадны фонд Літвы). Але душа мая неспакойная: мне здаецца, што значэнне закранутых праблем выходзіць далёка за межы Украіны. А паколькі цэнтральны друк падобны матэрыял публікаваць не стане, я магу дайсці да чытачоў з іншых саюзных рэспублік толькі праз друк гэтых рэспублік.**

**Таму і звяртаюся да вас з прапановаю надрукаваць у вашай газеце пераклад майго артыкула. Ганарар прашу перавесці Руху альбо Таварыству беларускай мовы.**

**Азнаёміўшыся з артыкулам, мы пагадзіліся, што закранутыя ў ім праблемы сапраўды «выходзяць далёка за межы Украіны», і парашылі падтрымаць просьбу Дмытра Пылыпчука: прапануем пераклад ягонага артыкула ўвазе лімаўскіх чытачоў.**

**Дмытро ПЫЛЫПЧУК**

# Устаньма з каленяў!

*У нацыянальнай палітыцы факты — гэта выспы ісціны ў акіяне хлусні.*

*Аўтар.*

Паважаныя дэпутаты! Паважаны старшыня! У сваім абмежаваным па часе выступленні, заклікаючы вас аб'явіць Закон СССР «Аб мовах народаў СССР» на тэрыторыі Украінскай ССР **не дзейным**, я паспрабую абгрунтаваць прынамсі **тры сцвярджэнні.**

Сцвярджэнне першае. **Тое, што практычна ва ўсіх саюзных рэспубліках, акрамя Расійскай Федэрацыі, мове народа, які даў імя рэспубліцы, нададзены статус дзяржаўнай, было грамадскай неабходнасцю.**

Хіба магло быць інакш, калі парламенты саюзных рэспублік не адракаюцца ад падпісанай Леніным «Дэкларацыі правоў народаў Расіі» (1917), падрыхтаванага ім жа «Праекта закона аб раўнапраўнасці нацый і аб абароне правоў нацыянальных меншасцей» (ПЗТ, т. 25, стар. 135—137), калі яны не пагарджаюць ленінскім указаннем аб тым, што «трэба ўвесці самае строгае правіла адносна ўжывання нацыянальнай мовы ў іншанацыянальных рэспубліках» (ПЗТ, т. 45, стар. 361), калі яны не адвяргаюць яго думкі аб тым, што «Нідзе ў свеце марксісты (і нават дэмакраты) не адмаўляюць навучання на роднай мове» (ПЗТ, т. 25, стар. 146)?

Хіба магло быць інакш, калі нацыянальныя мовы аказаліся ў стане недапушчальнай дэградацыі, а то і вымірання, якое ахапіла літаральна ўвесь Саюз?! Аматары распаўсюджання чутак, праўда, пагаворвалі, што ў некаторых рэспубліках «гэтыя бандэры (лабусы, чучмэкі...) паруску наогул не хочуць размаўляць...» Хоць дадзеныя перапісу насельніцтва даказвалі якраз іншае, а эпоха галоснасці адкрыла нам сапраўды драматычную карціну.

Нам заўсёды гаварылі, напрыклад, што «ў гэтай Літве — усё толькі на літоўскай» ці што «ў Грузіі — усё на грузінскай». І вось мы ў газеце «Советская Литва» чытаем выступленне пісьменніка А. Ю. Юозенаса-Балтушыса на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі з выпадку надання літоўскай мове статуса дзяржаўнай: «Дзе яна сёння, гэтая мова? — пытаецца ён.— Плакаць хочацца ад такой горкай страты. Як пісьменнік я пяты дзесятак гадоў шукаю па ўсёй Літве машынку з літоўскім шрыфтам. І я, стары чалавек, камуніст, дэпутат Вярхоўнага Савета, вымушаны сёння кланяцца спекулянту-прыватніку, упрошваць яго, каб ён замяніў шрыфт на машынцы, якая прадаецца толькі з рускай клавіятурай. Такога прыніжэння я не ведаў нават у кіруемай буржуазіяй Літве!»

Громам з чыстага неба сталі апублікаваныя «Литературной газетой» словы вядомага пісьменніка Атара Чыладзе пра «ігнараванне роднай мовы, калі не ва ўсіх, дык у большасці ўстаноў і арганізацый»... Грузіі! А ўжо ў газеце «Молодежь Грузии» старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Ш. Руставелі АН ГССР Манана Гігінеішвілі гаворыць: «...Большасць нашых навуковых інстытутаў работу вядзе на рускай мове. Няма нават грузінскай пішучай машынкі ў гэтых інстытутах. Толькі ў некалькіх гуманітарных інстытутах, у тым ліку і ў нашым, можна атрымаць даведку на грузінскай мове».

З «Вестника высшей школы» мы даведаліся, што «...У Фрунзе на пачатак 1988 г. не вывучалі роднай мовы 42 працэнты дзяцей кіргізскай нацыянальнасці. У Марыйскай АССР выкладанне роднай мовы ў школах не вялося на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў».

А часопіс «Народное образование» расказаў: «Сёння са 144 школ Казані толькі тры татарскія. Толькі за 12 апошніх гадоў колькасць вучняў татарскай школы скарацілася ў рэспубліцы... амаль у чатыры разы».

Пасля публікацый у «Літературной Україні» мы думалі, што, бадай, толькі ў нас ды ў Беларусі зневажаюць у школе мову карэннага народа, але вось у той жа «Молодежи Грузии» чытаем сведчанне настаўніка СШ № 34 г. Тбілісі Ш. Цікарадзе: «Есць у нашым раёне школа, дзе з 30 вучняў класа 20 вызвалены ад вывучэння грузінскай мовы — і забаўляюцца на ўроках кожны як можа».

А тут у бакінскай газеце «Коммунист» пішуць: «У навучальных планах азербайджанскіх школ на прадмет «Руская мова» адводзіцца па ўсіх класах 53,5 гадзіны на тыдзень, а ў рускіх школах на азербайджанскую мову выдзяляецца 18 гадзін. Вывучэнне рускай мовы праводзіцца па падгрупах, а ў вывучэнні азербайджанскай мовы гэты парадак выкарыстоўваць не дазваляецца... Чаму павінна быць так? Каму і дзеля чаго патрэбны гэтыя сынкі-пасынкі?»

Часопіс «Коммунист Молдавии» паведамляе, што з 50—60 гадоў у 30 некалі ўкраінскіх школах на тэрыторыі Малдавіі навучанне вядзецца на рускай мове. Газета «Вечерний Кишинев» інфармуе, што сёння ў Малдавіі жыве 600 тысяч украінцаў, ці 14,2 працэнта ўсяго насельніцтва рэспублікі, а ўкраінскую мову ў Дубасарскім, Камянскім, Рыбніцкім раёнах вывучаюць толькі 350 вучняў. Звяртаю вашу ўвагу: не «вучацца на мове», а «вывучаюць мову»!

А часопіс «Русский язык в школе», не звяртаючыся да канкрэтнага пераліку, паведамляе ўжо ў падагуленай форме,— што 73 сферы грамадскага жыцця Кіргізіі не абслугоўваюцца кіргізскай мовай...

І кожны раз мы пытаемся ў саміх сябе: а хіба становішча ўкраінскай мовы лепшае?

Давайце задумаемся, людзі добрыя, над тым, што з 2 мі**льёнаў 600 тысяч дзяцей у дзіцячых дашкольных установах Украіны на ўкраінскай мове выхоўваюцца і навучаюцца толькі 642 тысячы, дзякуючы чаму кожныя 6—7 гадоў у рэспубліцы дадаецца 2 мільёны грамадзян, якія не ведаюць нацыянальнай мовы. Я прашу дзеячаў украінскага парламента ўдумацца хоць бы ў адзін факт: з кожных чатырох дзяцей украінцаў у рускамоўных дашкольных установах выхоўваецца амаль трое.** Гэта не толькі амаральна, гэта не толькі злачынна; з пункту гледжання прагностыкі гэта яшчэ і трагічна: памірае адзін з буйнейшых народаў Еўропы.

**У мільённых гарадах Украіны — Адэсе і Харкаве** (апошні, дарэчы, з 1919 па 1934 г. быў сталіцай рэспублікі), дзе пераважае карэннае насельніцтва і дзе жывуць жа не адны толькі манкурты, **няма ніводнага ўкраінскага садка, а ў Днепрапятроўску іх усяго два.**

У Аўстраліі, дзе ўсяго каля 30 тысяч украінцаў, у гарадах Сіднеі і Мельбурне 12 украінскіх школ, а ва ўкраінскіх сацыялістычных гарадах-мільённіках Днепрапятроўску, Данецку, Адэсе, Харкаве, ды і ў 900-тысячным Запарожжы — іх **зусім ці амаль няма.** У школах сталіцы Украіны **толькі кожны пяты вучань навучаецца на ўкраінскай мове** (а выхоўваецца яшчэ менш, бо моўны статус школьных калектываў парушаецца, у тым ліку і педагогамі). З 49 сталічных прафтэхвучылішчаў выкладанне на гэтай мове не вядзецца ані ў адным. Гэта ж маральнае выраджэнне!

Дзякуючы сталінска-суслаўскім «дэфармацыям» нашай ідэалогіі ў гарадах рэспублікі вырасла некалькі (!) пакаленняў украінцаў, настроеных у дачыненні да роднай мовы не толькі нігілістычна, але часта і проста агрэсіўна! Хіба гэта — не ганьба для сацыялізму? Няўжо пасля гэтага можна яшчэ гаварыць пра нейкія сацыялістычныя ідэалы ці верыць у магчымасць нейкай «абноўленай федэрацыі»?!

Паўстагоддзя назад (у вечнапамятным 1937 годзе) на Украіне больш чым 80 працэнтаў вучняў займаліся ў школах з украінскай мовай навучання. А сёння — менш чым палова ўсіх школьнікаў!

Як паведаміў «Вечерний Киев», у 1988 годзе Інстытут філасофіі АН УССР правёў сацыялагічнае экспрэс-даследаванне сярод 794 кіяўлян — бацькоў першакласнікаў 15 сярэдніх школ Кіева ў чатырох раёнах горада. Высветлілася, што толькі 2,5 працэнта цяперашніх першакласнікаў выхоўваліся ў дзіцячых дашкольных установах з украінскай мовай і яшчэ 14,5 — са змешанай. Толькі 3,6 працэнта бацькоў купляюць сваім дзецям кнігі пераважна на ўкраінскай мове, 97 працэнтаў бацькоў-удзельнікаў апытання выбралі для сваіх дзяцей школу ці клас з рускай мовай навучання.

Сацыялінгвістычнае даследаванне, праведзенае ў Запарожскай вобласці (о слаўнае Запарожжа, калыска казацкай вольніцы!), выявіла, што «ў размове з падначаленымі ўкраінскую мову выкарыстоўваюць толькі 1,5 працэнта інжынераў-украінцаў, што жывуць у райцэнтрах».

Але ці магло быць інакш, калі ў Савецкім Саюзе студэнтам і спецыялістам народнай гаспадаркі на мовах народаў СССР (акрамя рускай) прапануецца ўсяго 10 працэнтаў тыражоў даведачных выданняў, толькі 7,4 працэнта навуковай і 2,7 працэнта вытворчай літаратуры (1987)?

Калі ўдзельная вага навучальнай літаратуры для ВНУ, што друкуецца ва Украінскай ССР на мове карэннага насельніцтва, скарацілася (па колькасці назваў) з 86,9 працэнта ў 1946 годзе да 8 працэнтаў у 1980 годзе.

Калі ў цэлым па краіне **ўдзельная вага тыражу падручнікаў для ВНУ** па ўсіх дысцыплінах, разам узятых, выдадзеных на мовах народаў СССР (акрамя рускай), склала ў 1987 годзе толькі 5,1 працэнта, у той час як на замежных мовах такой літаратуры выпушчана ў **два разы больш** (10,6 працэнта).

Калі, нягледзячы на тое, што доля нярускага насельніцтва ў Саюзе пастаянна павялічваецца і дасягае ўжо паловы, удзельная вага тыражу кніг і брашур на мовах народаў СССР (акрамя рускай) зменшылася з 22,8 працэнта ў 1940 годзе да 10,6 працэнта ў 1987 годзе. І калі мы за гэтыя 47 гадоў здолелі зменшыць удзельную вагу тыражоў літаратуры на мовах народаў СССР (акрамя рускай) больш чым у два разы, дык ці хопіць тых ацалелых 10,6 працэнта даўжэй, чым на сорак бліжэйшых гадоў стыхійнай ці планамернай асіміляцыі?! Мы павінны над гэтым думаць...

Мы б'ём у літаўры і крычым, што ў савецкую эпоху каля 50 раней беспісьменных народаў атрымалі ўласную пісьменнасць ці што кнігі і брашуры выдаваліся на 92 мовах народаў СССР... Але мы забываем сказаць аб тым, што ў час Усесаюзнага перапісу 1926 года ў СССР зарэгістраваны 194 нацыянальнасці (і амаль такая ж колькасць моў!), а ў 1979 г.— ужо толькі 101 этнонім.

Сёння, фіксуючы ў энцыклапедыях, што ў нас, маўляў, каля 130 моў народаў СССР, мы быццам не бачым таго, што зараз на працягу аднаго **канкрэтнага** года кнігі і брашуры выходзяць фактычна на 58—67 мовах народаў краіны, газеты — на 55-ці, часопісы — на 44-ох, тэлевізійныя перадачы вядуцца на 40, а выкладанне ў школе ажыццяўляецца ўжо... толькі на 39-ці мовах (1988). Між іншым, у прадмове да статыстычнага зборніка «Друк СССР у 1937 годзе» напісана, што ў 1934—1937 гг. падручнікі выпускаліся на 90 мовах народаў СССР. **Дык як жа можна было за 50 гадоў страціць 50 моў навучання?!**

Памятаючы, што мы маем 130 моў народаў нашай краіны, давайце задумаемся, паважаныя калегі, над такім параўнаннем: за апошнюю чвэрць стагоддзя (з 1962 па 1988 г.) колькасць замежных моў, на якіх у Савецкім Саюзе выдаваліся перыядычныя выданні, вырасла ў два разы — з 13 да 26-ці, а колькасць моў народаў СССР, якім было дазволена права на такія выданні, не толькі не павялічылася, але нават на адну мову зменшылася— з 45-ці да 44-х.

Не, гэта быў не стыхійны працэс. Была сталінская езуіцкая ідэалогія, была суслаўская езуіцкая ідэалогія, быў рэпрэсіўны апарат супраць іншадумцаў, былі паслухмяныя і ініцыятыўныя выканаўцы ідэалагічных установак.

Калі на працягу першага года работы У. Шчарбіцкага на пасадзе першага сакратара ЦК Кампартыі Украіны ў рэспубліцы на рускай мове было выпушчана 3,3 мільёна экземпляраў выданняў мастацкай літаратуры, дык ужо ў наступным, 1974 г.— 9,9 мільёна экземпляраў, гэта значыць, у тры разы больш. Літаральна з першага года знаходжання Шчарбіцкага на ўказанай пасадзе была фарсіравана русіфікацыя навучальнай літаратуры для ВНУ (а за першыя 8 гадоў яго «княжання» колькасць найменняў украінскамоўных выданняў гэтай літаратуры скарацілася ў 5,7 раза), ажыццяўлялася масавае закрыццё ўкраінскіх школ, шырокім фронтам ішла русіфікацыя тэатраў і шматлікіх галін украінскай культуры, іншых сфер грамадскага жыцця.

Шчарбіцкі ў адным са сваіх апошніх выступленняў кіне сакраментальную (гэта значыць, традыцыйную) службовую фразу: «Украінскі народ жыве паўнакроўным жыццём». Гэты ілжэрулявы — нават пад заслону! — яўна не жадаў прызнаваць, што ён прывёў народ да дэградацыі.

Бо дэградацыя моў — гэта дэградацыя народаў, дэградацыя чалавека, і перш за ўсё маральная. У час Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 г. кожны чацвёрты беларус і кожны шосты ўкраінец назваў роднай мовай — рускую. А калі ўлічыць сённяшнюю сітуацыю ў школе, а яшчэ больш — у дзіцячых дашкольных установах і ВНУ, дык стане зразумелым, што гэтая дэградацыя, задуманая ў геаметрычнай прагрэсіі, ахапіла сваімі метастазамі ўсё грамадства. І ці такая ўжо выпадковасць, што Чарнобыль духоўны стаў Чарнобылем атамным?!

Абапіраючыся на гэтыя і іншыя рэальнасці, я і асмельваюся сцвярджаць, што законы саюзных рэспублік аб мовах былі і **грамадска неабходнымі**, і **правамернымі**, і **маральнымі**, яны былі першым крокам да спынення і папярэджання згаданых дэструктыўных працэсаў. У час сесіі Вярхоўнага Савета Малдавіі, дзе мове рэспублікі быў нададзены статус дзяржаўнай, дэпутат М. Е. Валанцір, між іншым, сказаў: «...Тое, што дагэтуль Малдаўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка не мела дзяржаўнай мовы, з'яўляецца памылкай гісторыі і злачынствам палітыкі. З гэтага пункту гледжання сесія мае адзіную мэту: выправіць памылку і ануляваць злачынства».

Маё другое сцвярджэнне. **Абвяшчэнне рускай мовы — афіцыйнай (а па сутнасці дзяржаўнай) з'яўляецца працягам русіфікатарскай палітыкі царызму, сталінізму і суслаўшчыны, яно заканадаўча замацоўвае прывілеі рускай мовы з мэтаю завяршэння асіміляцыі народаў Савецкага Саюза.**

Перш чым перайсці да канкрэтных аргументаў, нагадаю, што Ленін рэзка крытыкаваў праграму перапісу пачатковых школ Расіі, праведзенага у 1911 годзе. Яго абурала тое, што: «Ажно праз два гады выходзіць усяго першы том...», што «па пытанні аб роднай мове вучняў маецца ўсяго толькі агульная графа пра «рускую» мову: падзел на беларускую, маларускую (украінскую) і вялікарускую яўна забаронены... Забаронена збіраць поўныя звесткі. Забаронена ведаць праўду аб мове, на якой гавораць у сям'і вучні...» (ПЗТ, т. 24, стар. 195—196).

Між іншым, у век камп'ютэрызацыі, а не дэпартаменцкіх лічыльнікаў, дадзеныя Усесаюзнага перапісу насельніцтва СССР 1979 года апублікаваны асобнай кнігай толькі праз 6 гадоў (1985), а дадзеныя аб роднай мове насельніцтва па перапісу 1989 года не публікуюцца нашым перыядычным друкам— у эпоху галоснасці — ужо паўтара года.

Нядаўна на мой запыт міністэрствы народнай адукацыі некалькіх саюзных рэспублік адказалі, што статыстычных звестак аб мовах навучання ў іх... няма. Мінасвет РСФСР паведамляе, што «афіцыйнай статыстыкі і публікацый па мовах навучання ў школах Расійскай Федэрацыі не было», а Мінасвет Беларусі раіць мне літаральна наступнае: «Па пытанні статыстыкі моў навучання ў народнай адукацыі Вам неабходна

звярнуцца ў Дзяржкамстат СССР, бо яно не ўваходзіць у кампетэнцыю міністэрства»(!!!). Вядома, нармальны чалавек наўрад ці паверыць, што органу, які ажыццяўляе моўную палітыку ў справе адукацыі, статыстыка моў навучання можа быць абыякавая ці непатрэбная. Прычына хутчэй у іншым: нават самім міністэрствам «забаронена ведаць праўду аб мовах», як гэта забаронена ў большасці важнейшых сфер нацыянальнамоўнай палітыкі.

А гэта горкая праўда ў тым, што de facto прывілеяваная роля рускай мовы ў Расійскай імперыі засталася такой жа **і па сённяшні дзень.**

Усе мы ведаем ленінскую ацэнку Расіі як «турмы народаў». Маючы на ўвазе перш за ўсё прыгнёт нацыянальны, Ленін пісаў: «Нідзе ў свеце няма такога прыгнёту большасці насельніцтва краіны, як у Расіі» (ПЗТ, т. 26, стар. 318). Але вось якая, напрыклад, рэч: у царскай Расіі (1913) удзельная вага рускамоўных выданняў кніг і брашур (па іх тыражы) была 80,8 працэнта, у першыя дзесяцігоддзі пасля рэвалюцыі яна крыху зменшылася, а ў 1987—1988 гг. узрасла ўжо... да 86,7 працэнта!

З кожных 10 экземпляраў кніг і брашур, якія выдаюцца сёння ў краіне на мовах народаў СССР друкуецца ўсяго адзін; астатнія дзевяць — на рускай ці замежнай. «Свабоднае» у двукоссі развіццё моў народаў СССР красамоўна ілюструе той факт, што па асобных групах выданняў становішча літаратуры на мовах іншых народаў СССР горшае за становішча рускамоўных выданняў (па тыражах): у адносінах да замежнай літаратуры — у 13 разоў, навучальнай літаратуры для ВНУ — у 15, для прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай адукацыі — у 22, літаратуры па кібернетыцы і інфарматыцы — у 20 разоў, па тэхніцы, тэхнічных навуках — у 40 разоў, па будаўніцтве — у 59, па гандлі — у 70, па прафсаюзах — у 74, па радыёэлектроніцы, аўтаматыцы і тэлемеханіцы — у 112, а па прамысловасці наогул — у... 918 разоў! (Прыводжу тут самыя новыя дадзеныя за 1988 г., апублікаваныя ў 1989 г.).

Ці дзіўна пасля гэтага, што **нідзе і ніколі** ў праафіцыйнай навуковай літаратуры і друку не ўспамінаюць пра ленінскі законапраект, якім прапаноўвалася ўсталяваць наступнае правіла: «Мерапрыемствы.., якія парушаюць раўнапраўнасць моў нацыянальных меншасцей.., прызнаюцца несапраўднымі і падлягаюць адмене па пратэсту, які можа быць заяўлены любым грамадзянінам дзяржавы, незалежна ад месца яго пражывання» (ПЗТ, т. 25, стар. 136)? **Тады ж бы давялося прызнаць незаконнай усю кнігавыдавецкую палітыку ў нашай краіне з 1932 года і па сённяшні дзень, як, зрэшты, і толькі што прыняты Закон «Аб мовах народаў СССР»!**

Ды вось гэтае езуіцтва нашай ужо ўчарашняй, але яшчэ сённяшняй ідэалогіі, пра якую гаварыў Дмытро Паўлычка («адной рукой хрысціцца да госпада бога, а другой — выкрэсліваць непажаданыя словы з яго вучэння»), дазваляе яе рэліктам адначасова і спасылацца на Леніна, і выпрацоўваць платформу па нацыянальным пытанні, і рыхтаваць закон аб «агульнадзяржаўнай», і не заўважаць тысяч фактаў дыскрымінацыі нацыянальных моў, і выказваць трывогу з нагоды абвастрэння міжнацыянальных адносін, угледжваючы яго прычыны не ў несправядлівай нацыянальнай палітыцы, а ў «сепаратысцкіх памкненнях», гэта значыць па-шулерску падтасоўваць прычыны і вынікі...

Прааналізуй ланцужок фактаў і ацэнак у іх паслядоўнасці і ўзаемасувязі — і табе стане зразумела, дзе прычына, а дзе вынік.

Вось публікацыя ў «Литературной газете» (17.02.88): «У нашай рэспубліцы,—піша эстонец Ю. Туулік, — эстонскай мовай не валодаюць 90 працэнтаў рускага і іншага неэстонскага насельніцтва». А яшчэ чатыры публікацыі ў «Вечернем Таллинне» за верасень 1988 г.: 1) «Трэба зразумець трывогу эстонцаў за зберажэнне сваёй мовы, калі эстонцаў у Таліне менш за палову. У Таліне няма мясціны, дзе нельга было б вырашаць усе справы на рускай мове, але далёка не ўсюды гэта магчыма на эстонскай мове»; 2) «Безадказна паводзяць сябе і тыя ведамствы (сувязь, жыллёвая і камунальная гаспадарка і г. д.), якія ў імя ведамасных зручнасцей парушаюць прынцып раўнапраўнасці моў, фактычна правакуючы (інакш і не скажаш) людзей, ведучы дакументацыю толькі на адной мове, спараджаючы крыўды і напружанасць»; 3) «Рускую мову варта было б аб'явіць дзяржаўнай у РСФСР (а не ва ўсёй краіне), а эстонскую ў Эстоніі»; 4) «Зараз у рускамоўных школах Таліна 160 настаўнікаў эстонскай. Добрая палова з іх не толькі не з'яўляецца імі па дыпломе, але наогул не філолагі, а настаўнікі геаграфіі, спеваў, матэматыкі і фізкультуры, а часам і не настаўнікі».

Тут — і анамнез, і дыягназ, і прадпісанне, але... хворы выкідвае лекі ў каналізацыю і дае ўрачу ўказанні адносна тэрапіі!.. А самалячэнне, як вядома, вылазіць бокам.

У адным з чарнавікоў Леніна з паметкай «Не для публікавання» ёсць заўвага з адзнакай nota bene, гэта значыць «варта добра запомніць»: «Пачынаюць паважаць партыю, калі ёсць друкарня і тэхніка» (ПЗТ, т. 22, стар. 393). Адмінкамсістэма з яе шавіністычным цэнтралізмам не толькі «добра запомніла», але і трансфармавала гэтае ўказанне, дадаўшы ад сябе: «...і калі ёсць **папера,** друкарня і тэхніка». І сёння любая сур'ёзная справа ў культуры тармозіцца з цэнтра «з-за адсутнасці паперы»... Ды і тое, што дастанецца рэспублікам ад саюзнага пірага, яны не могуць скарыстаць так, як лічаць патрэбным. Вядома, напрыклад, што безлімітная падпіска на цэнтральныя (!) газеты і часопісы абярнулася скарачэннем лімітаў на паперу не для цэнтральных выдавецкіх інстанцый, а перш за ўсё для многіх выдавецтваў саюзных рэспублік.

У 1988 годзе з 29,7 мільярда лістоў-адбіткаў кніг і брашур, выдадзеных у СССР, у нярускіх рэспубліках друкавалася толькі 6,5 мільярда, тады як у РСФСР—22,7 мільярда (апошнія практычна ўсе — на рускай ці замежнай мовах). Здавалася б, справядлівасць вымагае, каб тыя крыхі паперы, якія дастаюцца нярускім рэспублікам, ішлі галоўным чынам на задавальненне нацыянальна-культурных патрэб карэннага насельніцтва. Аднак на справе ў 1988 годзе на Украіне на **рускай** мове аддрукавана 1 мільярд 200 мільёнаў лістоў-адбіткаў кніг і брашур, у Беларусі—841 мільён, ва Узбекістане — 293 мільёны, у Казахстане — 273 мільёны, у Малдавіі — 249 мільёнаў...

Калі скласці разам усю кніжную прадукцыю нярускіх (я падкрэсліваю: нярускіх!) саюзных рэспублік, дык акажацца, што ўжо з 1984 г. і на працягу ўсіх гадоў перабудовы (па колькасці лістоў-адбіткаў) сумарны аб'ём **рускамоўных** выданняў кніг і брашур **за межамі** РСФСР перавышае аб'ём кніжных выданняў на ўсіх іншых мовах народаў СССР, разам узятых. І хоць у рэспубліках Прыбалтыкі, Закаўказзя і асобных сярэднеазіяцкіх рэспубліках да такой дэградацыі выдавецкай справы яшчэ не дайшло, але дзякуючы асаблівай руплівасці дзяржкамвыдаў Украіны, Беларусі, Малдавіі, Казахстана, Кіргізіі і Таджыкістана гэтая надзвычай дэструктыўная перамена ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, гэты чарговы трыумф русіфікатарскай палітыкі стаў магчымы.

Цікава даведацца: калі ЦК КПСС сёння сапраўды супраць палітыкі зліцця нацый, дык чаму ён не выключыў з партыі кіраўнікоў Дзяржкамвыда СССР, вінаватых у тым, што (нягледзячы на наяўныя дзікія дыспрапорцыі папярэдніх дзесяцігоддзяў), **прырост лістажу рускамоўных** кніг і брашур наогул па краіне склаў за 1988 г. 995,9 мільёна лістоў-адбіткаў, выданняў на мовах замежных краін — 84,7 мільёна, а **на мовах народаў СССР** (акрамя рускай) — толькі 83,6 мільёна, у чым праглядваецца непрыхаваны — **на цэлы парадак!** — прыярытэт рускай мовы, дыскрымінацыйны, па сутнасці імперска-каланіялісцкі падыход да нярускіх нацыянальных культур і моў, **відочнае нежаданне выконваць ні рэзалюцыю XIX. Партыйнай канферэнцыі,** ні платформу па нацыянальным пытанні (у іх пазітыўнай, вядома, частцы)?

У Расійскай Федэрацыі ў 1988 г. дадалося 143 назвы газет і іншых перыядычных выданняў на рускай мове і толькі 3 новыя выданні — на іншых мовах народаў СССР, хоць тут жыве 23,9 мільёна чалавек нярускага насельніцтва (дарэчы, гэта больш, чым насельніцтва такой немалой і высокакультурнай краіны, як Чэхаславакія). І ніхто не здагадаўся спытаць: а як жа ў Расіі з правамі некарэннага насельніцтва, якія нібыта парушаюцца ў Прыбалтыцы ці Малдавіі? Адначасова на Украіне за той жа 1988 г. колькасць украінскамоўных газет і іншых перыядычных выданняў скарацілася на 30, а рускамоўных — павялічылася на 28. Аказваецца, левай рукой у ідэалагічным аддзеле ЦК Кампартыі Украіны ўхваляюць закон аб дзяржаўнасці украінскай мовы, а правай візіруюць прапановы аб закрыцці ўкраінскіх і адкрыцці рускіх выданняў...

Вось якую палітыку заклікана абараніць Закон «Аб мовах народаў СССР»: палітыку прадастаўлення прыярытэтаў рускай мове, якая ў іх не мае патрэбы, і палітыку вытоптвання іншых «братніх» моў — за парадным плотам афіцыйнай прапаганды!

Як прагаварыўся часопіс «Русский язык в национальной школе» (1989, № 6, стар. 4), у час усесаюзнага семінара-нарады «Аб мерах па ўдасканаленні выкладання родных моў у агульнаадукацыйных школах» работнік Інстытута рускай мовы Э. А. Грыгаран заявіў, што «...адкрыць школы з навучаннем на кожнай з больш чым 100 моў народаў СССР практычна немагчыма». Якая цынічная і пустая дэмагогія! Я ўжо даўно заўважыў: **калі не жадаюць клапаціцца пра 99, — гавораць пра 100!** Ленін жа падказвае разумнае выйсце з любой моўнай сітуацыі — у тым жа праекце Закона аб раўнапраўнасці нацый: у артыкуле 9 ён дае тлумачэнне, што такое «мясцовасць з неаднародным складам насельніцтва» — у якасці кампрамісу, а ў артыкуле 11 прапануе ўстанавіць, што «Прапарцыянальная доля сум, якія расходуюцца на культурна-асветныя патрэбы іншанацыянальных меншасцей дадзенай мясцовасці, не можа быць меншай, чым прапарцыянальная доля іншанацыянальных меншасцей ва ўсім насельніцтве гэтай мясцовасці» (ПЗТ, т. 25, стар. 137).

На жаль, грыгараны не арыгінальныя. Як не арыгінальны ні той данецкі шахцёр, які спалучыў у гутарцы з Гарбачовым праблему мовы з праблемай кілбасы, ні Галіна Беспашніна, што на сем месяцаў раней за нашага шахцёра спыталася ў газеце «Вечерний Таллинн» (29.07.88): «Калі мы ўсе заўтра ж вывучым эстонскую мову, хіба ад гэтага ў нашых магазінах адразу ж прыбавіцца мяса, кілбасы, цукру, адзення, абутку?» Паміж гэтымі двума выказваннямі розніца толькі ў тым, што шахцёр гэтак пагардліва гаворыць аб роднай мове, а Беспашніна — аб нероднай (эстонскай). На жаль, беспашніных шмат. Як засведчыла статыстыка (1979), з **23,9 мільёна рускіх, што жывуць не ў РСФСР, а ў іншых саюзных рэспубліках, 19,4 мільёна чалавек (81,3 працэнта) заявілі, што яны не валодаюць ніводнай іншай мовай народаў СССР, акрамя рускай.** У час Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 года **з 10 мільёнаў рускіх, што пастаянна жывуць на Украіне, украінскай мовай не валодалі больш за 7 мільёнаў.**

У газеце «Вечерний Тбилиси» яшчэ да прыняцця Закона «Аб мовах народаў СССР» (6.07.89) адзін з грузінскіх педагогаў пісаў: «Звярніце ўвагу, як парадаксальна склалася сітуацыя: у кожнай нацыянальнай рэспубліцы ў сувязі з наяўнасцю кантынгенту павінна быць руская школа, але ў ёй не абавязковае вывучэнне нацыянальнай мовы. Інакш як ушчамленнем раўнапраўнасці моў гэты працэс не назавеш».

Тут застаецца толькі дадаць, што артыкул 7 Закона «Аб мовах народаў СССР» у частцы другой замацоўвае абавязковасць вывучэння рускай мовы, а ў частцы чацвёртай дапускае вызваленне ад вывучэння мовы рэспублікі.

Такім чынам, Закон «Аб мовах народаў СССР», які павінен быў стаць на ахову меншых, абдзеленых і малаабароненых моў, стаў на ахову і без таго моцнай рускай мовы.

На аснове ўсяго сказанага я і раблю выснову, што абвяшчэнне рускай мовы афіцыйнай (а па сутнасці дзяржаўнай) з'яўляецца лагічным працягам русіфікатарскай палітыкі царызму, сталінізму і суслаўшчыны, яно можа саслужыць службу хіба што канчатковай асіміляцыі народаў Саюза.

І сцвярджэнне трэцяе. **Закон,** супраць якога я выступаю, **неканстытуцыйны.**

Я звяртаю ўвагу паважаных народных дэпутатаў Украіны на тое, што Закон СССР «Аб мовах народаў СССР» супярэчыць Канстытуцыі СССР.

У арт. 45 Канстытуцыі СССР, хай і ва ўсечаным выглядзе, ідзе гаворка пра забеспячэнне грамадзянам магчымасці навучання ў школе на роднай мове. А Закон «Аб мовах народаў СССР», замест таго, каб прадаставіць такое права, гаворыць аб стварэнні толькі ўмоў для вывучэння грамадзянамі СССР іх роднай мовы (арт. 7). Гэта азначае, што ўжо сёння рыхтуецца новы этап «законнага» дэмантажу сістэмы нацыянальнамоўнай адукацыі.

Кожны ж з нас павінен разумець, што паняцце «навучанне і выхаванне на роднай мове» адрозніваецца ад паняцця «вывучэнне роднай мовы» па сваім аб'ёме прынамсі на парадак і больш. Нам прапануюць замест раўнавартаснага навучальнага і выхаваўчага працэса на роднай мове — даваць у школе і дзіцячых дашкольных установах толькі ўрокі роднай мовы. Гэтая шулерская падмена можа стацца толькі першым крокам да поўнага зняцця ў бліжэйшай будучыні канстытуцыйных гарантый, зафіксаваных у арт. 45 Канстытуцыі, на той вонкава — для юрыстаў — высакароднай падставе, што трэба, маўляў, каб норма Асноўнага Закона карэспандавалася з нормай закона аб мовах, прынятага ўжо ў перабудовачны час. **Для многіх моў народаў СССР гэта было б крокам у царства Аіда.**

Характарызуючы новы закон СССР як неканстытуцыйны, вельмі важна сказаць, што Закон фактычна **пазбаўляе** грамадзян права навучання на роднай мове, якое ў Канстытуцыі хоць і акрэслена невыразна і няпоўна, але ўсё ж атрыбутавана як адно з правоў грамадзяніна, тады як у новым законе **права грамадзяніна акцэнтуецца не ў адносінах навучання на роднай мове, гэта значыць у рэчышчы клопатаў аб зберажэнні саміх нацый, а ў асімілятарскім духу — як права свабоднага выбару мовы выхавання і навучання.**

Ленінскі прынцып —«свабоды роднай мовы» (ПЗТ, т. 25, стар. 72) — трансфармаваўся ў законе «Аб мовах народаў СССР» у «свабодны выбар мовы выхавання і навучання» (арт. 6).

Робячы асаблівы націск (а гэта так!) на праве грамадзян свабодна выбіраць мову выхавання і навучання і не прапануючы **права грамадзян на навучанне і выхаванне на роднай мове,** закон «Аб мовах народаў СССР» фактычна падрывае прадугледжанае ў арт. 36 Канстытуцыі СССР палажэнне аб магчымасці карыстацца роднай мовай, бо ў футуралагічным аспекце **мова выхавання і навучання заключае ў сабе генетычны код грамадзяніна,** — і, падмяняючы гэты генетычны код, наша дзяржава па сутнасці адкідвае прынцып раўнапраўнасці грамадзян розных нацыянальнасцей, замацаваны 36-ым артыкулам Канстытуцыі СССР.

Выходзячы з аналізу рэальнага становішча і перспектыў моўнай сітуацыі на Украіне ў выпадку маўклівай згоды Вярхоўнага Савета УССР з новым саюзным законам аб мовах, прапаную паважаным народным дэпутатам прыняць наступную пастанову Вярхоўнага Савета Украінскай ССР:

«Аб Законе СССР «Аб мовах народаў СССР».

Абмеркаваўшы Закон СССР «Аб мовах народаў СССР» і моўную сітуацыю ў рэспубліцы, Вярхоўны Савет Украінскай ССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

.1 Аб'явіць Закон СССР «Аб мовах народаў СССР», прыняты Вярхоўным Саветам СССР 24 красавіка 1990 г., не дзейным на тэрыторыі Украінскай ССР.

2. Прапанаваць Камітэту канстытуцыйнага нагляду СССР разгледзець пытанне аб адмене дзеяння ўказанага Закона СССР у сувязі з тым, што ён супярэчыць палажэнням Канстытуцыі СССР у частцы нацыянальнай палітыкі (арт. 36 і 45), не ўлічвае рэальнай моўнай сітуацыі ў краіне і можа прывесці да сур'ёзных міжнацыянальных канфліктаў.

3. Даручыць Савету Міністраў Украінскай ССР, выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў прыняць захады да паслядоўнага ажыццяўлення Закона УССР «Аб мовах ва Украінскай ССР», рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця ўкраінскай мовы і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы на перыяд да 2000 года.

Прызнаць мэтазгодным у двухмесячны тэрмін стварыць пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета Украінскай ССР па кантролі за моўнай палітыкай у рэспубліцы і аналагічныя пастаянна дзейныя дэпутацкія камісіі абласных, гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў з адпаведнымі паўнамоцтвамі».

Я разумею, да якой незвычайнай ролі я заклікаю Вярхоўны Савет.

У артыкуле «Памяці графа Гейдэна» Ленін даў бліскучую класіфікацыю рабоў: «Раб, які ўсведамляе сваё рабскае становішча і змагаецца супраць яго, ёсць рэвалюцыянер. Раб, які не ўсведамляе свайго рабства і гібее ў маўклівым, несвядомым і бязмоўным рабскім жыцці, ёсць проста раб. Раб, у якога слінкі цякуць, калі ён самазадаволена апісвае асалоду рабскага жыцця і захапляецца добрым і ласкавым панам, ёсць халоп, хам» (ПЗТ, т. 16, стар. 40).

Я прашу вас зрабіць выбар паміж гэтымі трыма катэгорыямі рабства, памятаючы аб тым, што гэта выбар не ваш асабісты, а ад імя вялікага народа, перад якім, магчыма, апошні раз паўстала страшнае пытанне: «Быць ці не быць?»

Так здарылася, што амаль адначасова адзін украінскі крытык нагадаў нам, як у Гогаля запарожцы кінуліся перад царыцай на калені, а ў адказ на яе прапанову ўстаць закрычалі хорам: «Не ўстанем, мама! Не ўстанем! Памрэм, а не ўстанем!» — і адзін грузінскі філосаф спытаў: «Ці не час нам стаць вертыкальна перад мінулым, сённяшнім і будучым?» «У мяне такое ўражанне, — дадаў украінскі крытык, — што мы дагэтуль стаім на каленях».

Я заклікаю вас, паважаныя дэпутаты: устаньма з каленяў!

Дзякую за ўвагу.

г. Кіеў, май 1990 г.

# «ДАПАМАГЛА ЛЮБОЎ ДА МУЗЫКІ...»

**З дырыжорам Барысам Райскім, якому споўнілася 75 гадоў, гутарыць наш няштатны карэспандэнт**

**«Дырыжыруе Барыс Райскі». Як часта гучаць гэтыя словы ў абвестках радыёканцэртаў. Слухачы ведаюць імя дырыжора. Кампазітары ведаюць яго як музыканта, праз чые рукі ў літаральным сэнсе прайшлі творы, што складаюць ужо цэлы пласт нашай музычнай культуры. Без малога тры дзесяткі гадоў працаваў ён за пультам аркестра Дзяржтэлерадыё БССР, многія і многія фондавыя запісы фанатэкі зроблены пад ягоным кіраўніцтвам. Але жыццёвы шлях Б. Райскага складваўся няпроста.**

**— Калі ласка, Барыс Іпалітавіч, падзяліцеся ўспамінамі...**

— Я нарадзіўся ў Іркуцку, а ў 1925 годзе мы пераехалі ў Харбін. Бацька працаваў там у оперным тэатры. Ён быў дырыжорам, чалавекам, які жыў музыкай. Музыка запаўняла і наш дом.

Наогул, тады Харбін быў надзіва музычны горад. Знакамітасці прыязджалі сюды з усяго свету: Шаляпін, Эльман, Цымбаліст, Мянухін. У Харбінскай оперы пачыналі кар'еру Лемешаў і Забэйда-Суміцкі, пра якога вельмі захоплена гаварылі ў музычных колах і якога пашчасціла хлапчуком слухаць і мне... Сапраўды, маленькі горад Харбін, а былі там оперны і драматычны тэатры, тэатр музычнай камедыі, сімфанічны аркестр, а гарадскі парк поўніўся гукамі духавога аркестра.

Музыкай я пачаў займацца пад кіраўніцтвам бацькі, потым вучыўся ў Вышэйшай музычнай школе імя Глазунова. А далей жыццё склалася так, што з 14-ці гадоў давялося працаваць і нават утрымліваць сям'ю, бо і бацька і маці аказаліся без работы. Я іграў на віяланчэлі ў кінатэатры... Так, калі Савецкі Саюз прадаў Кітайскую ўсходнюю чыгунку, жыццё наша крута змянілася. Ужо не было тых энтузіястаў, якімі поўніліся канцэртныя залы. Я пераехаў у Цінзін. Там пашчасціла арганізаваць аркестр. Захавалася ў мяне афіша яго першага выступлення. Мы ігралі фартэпіянны канцэрт Грыга, саліравала французская піяністка. Гэта было ўжо ў 1937 годзе.

Потым пераехаў у Шанхай. Там давялося дырыжыраваць муніцыпальным аркестрам. Гэта быў вельмі добры калектыў. Мы ўпершыню пазнаёмілі слухачоў з музыкай Шастаковіча, Хачатурана, ігралі ўсё тое, што толькі можна было дастаць у Шанхаі. Там быў савецкі магазін, дзе прадаваліся ноты, партытуры. А вось аркестравыя галасы даводзілася распісваць самому...

**— У вас не было магчымасці займацца ў кансерваторыі. Відаць, дырыжорскія веды набываліся на практыцы?**

— Так, шмат слухаў запісаў, пласцінак. Была ў Шанхаі радыёстанцыя, якая часта трансліравала класічную музыку ў выкананні сусветных знакамітасцяў. Збіраліся разам з сябрамі, бралі партытуры, слухалі, абменьваліся думкамі.

Памятаю, быў там незвычайны чалавек. Рускі. Працаваў ён на англійскай таможні, але больш захопленага музыкай чалавека я не сустракаў. Усё, што ён зарабляў, траціў на апаратуру, пласцінкі, ноты. А яны сцякаліся з усяго свету. Мы часта бывалі ў яго з Алегам Лундстрэмам. Ён чытаў нам лекцыі па гісторыі музыкі.

**— З тым самым Лундстрэмам, вядомым эстрадным дырыжорам?**

— Так, мы сябравалі і нават жылі ў адным доме.

**— Барыс Іпалітавіч, вы сустракаліся з многімі вядомымі музыкантамі. Напэўна, чулі і Вярцінскага?**

— Тады ён спяваў у асноўным ужо ў рэстаранах. Дык вось, быў у нас вольны дзень, і мы паехалі яго паслухаць. Было гэта ў курортным гарадку Цындао. Ужо апоўначы на сярэдзіну рэстараннай залы выйшаў чалавек і пачаў спяваць. Адбылося нешта незвычайнае. Такога пачуцця я больш ніколі не зведаў, але, на маю думку, Вярцінскага трэба было слухаць у пэўных абставінах, настроі.

Дарэчы, з Вярцінскім звязана і нашае вяртанне на Радзіму. Ужо ішла вайна, і раптам —як выбух: Вярцінскі едзе ў Савецкі Саюз! Ён наладзіў развітальны вечар. Ва ўсіх толькі і было на вуснах: «Саша (а яго ўсе так і звалі—Саша Вярцінскі) едзе на Радзіму!». Яго ад'езд ускалыхнуў нашае асяроддзе. Быў у Шанхаі Клуб грамадзян СССР. Мы збіралі лекі, рэчы, адпраўлялі іх на Радзіму. Паслалі і ліст у Крэмль, пісалі, што мы, маладыя грамадзяне СССР, лічым сябе вайсковаабавязанымі і просім адправіць нас на фронт. Потым прыйшоў адказ ад каменданта Крамля, што нашае пісьмо атрымана. І ўсё. Ніякіх іншых слоў больш не было.

І вось у 1947 годзе газета «Савецкі новы шлях», што выходзіла ў Шанхаі, надрукавала пастанову ўрада СССР, паводле якой нам было дазволена вярнуцца на Радзіму. Я прыехаў са сваім аркестрам. Чаму быў аркестр? Таму, што ў нас была радыёстанцыя «Голас Радзімы», дзе мы выступалі з канцэртамі, ігралі і на першым савецкім параходзе «Смольны», што прыйшоў у Шанхай. Гэта была хвалюючая падзея...

У Шанхаі 10 гадоў я працаваў дырыжорам і мастацкім кіраўніком на студыі грамзапісу «Калумбія». Гэта быў філіял англійскай фірмы. З рускіх былі толькі гукарэжысёры я. Мы запісвалі ў асноўным папулярныя кітайскія песенькі. Такім чынам, у мяне быў вопыт студыйнай працы, таму хутка па прыездзе я трапіў у Рыгу, дзе пачаў працаваць таксама на студыі грамзапісу. Праз нейкі час атрымаў ліст ад музыкантаў майго былога аркестра. Яны знаходзіліся ў Сочы, працавалі ў мясцовым цырку, прасілі вярнуцца да іх. Вось так я трапіў у цырк. Мы вандравалі па краіне, у 1958 годзе прыехалі ў Мінск. Мінчане, мабыць, памятаюць стары цырк-шапіто на беразе Свіслачы ў парку Горкага. Там выступалі і мы. А тым часам будаваўся новы цырк, дзе мы пачалі працаваць ужо стала.

У аркестр на радыё я прыйшоў у 61-м. Выхоўваўся на класіцы, а ў жыцці давялося займацца і эстрадай. Тады, у 60-я гады, беларуская эстрадная музыка толькі нараджалася. Спачатку за рэпертуарам даводзілася ездзіць да суседзяў у Рыгу, Вільнюс, Талін. Было цяжка. Аркестр не мог сыграць твор ад пачатку да канца. Часам трохмінутная песенька «складалася» з 18-ці склеек на плёнцы! Арганізаваўся аркестр як эстрадны, потым ператварыўся ў эстрадна-сімфанічны. У рэпертуары з'явіліся сімфоніі, оперы, балеты. Амаль уся беларуская музыка прайшла праз мае рукі.

**— І амаль увесь час давялося працаваць у студыйных умовах, а студыя — не канцэртная зала...**

— Так, мікрафон — гэта такі рэнтген гукавы, які не падманеш! Калі ў канцэрце хтосьці нячыста сыграў і ўсё гэта неяк паглынаецца ў агульным гучанні, дык перад мікрафонам такое немагчыма. Патрэбны толькі высакаякасны запіс, бо радыё — гэта эталон гучання. А найбольшая цяжкасць, мабыць, у адсутнасці жывога кантакту са слухачом. Мікрафон жа — гэта жалезная прылада, якая не настройвае на творчы лад. Дырыжор павінны як бы ўявіць, адчуць глядзельную залу, перадаць гэтае пачуццё аркестру і прымусіць яго іграць так, як перад публікай на канцэрце.

**— Можа, таму вы імкнуліся часцей выводзіць аркестр на філарманічную эстраду?**

— Гэта той жывы струмень, які проста неабходны для існавання музычнага калектыву. Калі ўвесь час іграць толькі ў студыі, губляецца адчуванне жывога. Але ёсць складанасць і ў тым, што калі на канцэрце музычную плынь спыніць немагчыма, дык у студыі гэта даводзіцца рабіць наўмысна, бо бывае неабходнасць. Калі нешта не так, трэба спыніцца і ўсё ўзнаўляць спачатку. Вось тут дырыжор павінны настроіць музыкантаў кожны раз іграць натхнёна, не губляць творчы імпэт. Гэта асабліва цяжка, калі працуеш над операй. Напрыклад, сёння мы работу скончылі, а працяг запісу гэтай сцэны давядзецца рабіць ажно праз тыдзень. Дырыжор мусіць усё трымаць у памяці, каб ніводнае «шво» не адчувалася.

**— Так, праз вашыя рукі прайшла амаль уся беларуская музыка. Пад кіраўніцтвам заслужанага артыста БССР Барыса Райскага запісаны оперы «У пушчах Палесся» А. Багатырова, «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса, «Сівая легенда» Д. Смольскага, аперэта Ю. Семянякі «Паўлінка», балеты і сімфанічныя творы Я. Глебава, песні І. Лучанка і Л. Захлеўнага, музыка маладых... Як складваліся ў вас адносіны з кампазітарамі?**

— Яны ставіліся да мяне з даверам. Гэта было самае каштоўнае. Я ніколі не дазваляў сабе штосьці рабіць без аўтарскай згоды, нават калі нешта ў партытуры і не падабалася. Лічу, дырыжор мае права на інтэрпрэтацыю, але не можа адвольна штосьці мяняць. Потым у сумеснай працы заўсёды выбіраўся аптымальны варыянт.

**— Барыс Іпалітавіч, амаль 60 гадоў вы былі на эстрадзе, а гэта ж вымагала яшчэ і фізічнай аддачы. Як вам удалося на доўгія гады захаваць творчую форму?**

— Я думаю, дапамагла любоў да музыкі. Калі б музыка хоць на імгненне зрабілася для мяне абузай, я б не змог працаваць. Наогул, лічу сябе шчаслівым чалавекам. Амаль увесь час меў справу з «жывой» музыкай, усё новай і новай. Напэўна, нешта ўдалося зрабіць вартаснае, камусьці з кампазітараў, якія звярталіся ў аркестр, дапамагчы...

**«Дырыжыруе Барыс Райскі» — гэтыя словы даўно гучаць (і будуць гучаць!) у эфіры. Усё тое, чаму былі аддадзены веды, шчодрасць сэрца, не рассеялася ў паветры, а па крупінцы сабралася ў залаты фонд беларускай музычнай спадчыны.**

**Такому лёсу музыканта можна па-добраму пазайздросціць.**

Людміла МІТАКОВІЧ.

*Лёс помніка*

# Ад каго бараніць Бабруйскую крэпасць?

Гісторыя Бабруйскай крэпасці налічвае больш як паўтара стагоддзя. На пачатку XIX стагоддзя, калі небяспека ўварвання ў межы Расійскай імперыі напалеонаўскіх войскаў стала рэальнасцю, адсутнасць на заходніх межах сучасных крэпасцяў, на якія можна было б абаперціся ў час вайны, пагражалі сур'ёзнымі цяжкасцямі для рускай арміі. Неабходнасцю стала будаўніцтва такіх крэпасцяў, найперш на Заходняй Дзвіне ў Дзвінску (сучасны Даўгаўпілс) і на Бярэзіне ў Бабруйску — на найбольш верагодных напрамках магчымага наступу праціўніка. Прасторы паміж імі прыкрываліся вялікімі ляснымі масівамі з рэдкімі дарогамі. Рашэнне аб будаўніцтве крэпасці ў Бабруйску было прынята паводле прапановы Ф. Нарбута, аднаго з буйнейшых гісторыкаў Беларусі. Крэпасць вырашылі будаваць на правым беразе Бярэзіны. Праект будучай крэпасці быў распрацаваны вядомым ваенным інжынерам Оперманам і зацверджаны Аляксандрам І. Пазней ён некалькі разоў змяняўся. Будаўніцтва пачалося летам 1810 года. Да гэтага былі прыцягнуты тысячы салдат і прыгонных сялян Мінскай, Магілёўскай і Чарнігаўскай губерняў. Акрамя таго, кожная губерня абавязана была даваць 500 грабарак, а таксама будаўнічы матэрыял — камень, цэглу, вапну, лес. Для аздаблення асабліва значных пабудоў падвозіўся граніт на баржах з Карэліі, Каўказа, Урала. Да сярэдзіны 1812 года ўдалося ўзвесці 5 земляных бастыёнаў, звязваючыя іх курціны і частку ўнутраных пабудоў. Яшчэ недабудаванай крэпасці, без дастатковага гарнізона і ўзбраення, давялося браць удзел у вайне. Пераформіраваўшы свае войскі ў Бабруйскай крэпасці і пакінуўшы пяцітысячны гарнізон пад камандай Г. Ігнацьева, Баграціён адышоў за Бярэзіну. Намаганне французаў сходу ўзяць крэпасць была беспаспяховай. Пачалася чатырохмесячная аблога дваццацітысячным корпусам генерала Дамброўскага.

Нягледзячы на неаднаразовыя штурмы і абстрэлы крэпасці з цяжкіх гармат, французы так і не здолелі яе ўзяць. Па сведчаннях сучаснікаў, ні адна крэпасць Расійскай імперыі не адыграла такой вялікай ролі ў вайне 1812 года, як Бабруйская.

Пасля заканчэння вайны праца па ўзвядзенні крэпасці была прадоўжана з яшчэ большым размахам. Будуюцца яшчэ 17 бастыёнаў, курціны, равеліны, узводзяцца мураваныя капаніры і вежы, казармы, склады.

У 1823 годзе служыўшыя ў крэпасці дзекабрысты С. Мураўёў-Апостал, М. Бястужаў-Румін, В. Нораў ды іншыя распрацавалі план арышту Аляксандра І у час інспекцыйнага агляду крэпасці і гарнізону. Аднак план не быў ажыццёўлены. Не ўвянчалася поспехам і спроба ўсчаць паўстанне ў крэпасці ў снежні 1825 года, калі прапаршчык С. Трусаў спрабаваў узняць салдат Палтаўскага палка. Пасля паражэння паўстання дзекабрыстаў крэпасць стала месцам зняволення для шмат каго з іх.

К сярэдзіне XIX стагоддзя Бабруйская крэпасць стала адной з найлепшых у Еўропе. Умацаванні крэпасці вызначаліся высокай якасцю выкананых работ. Яе гарнізон дасягаў 25—30 тысяч чалавек пры 360 крапасных гарматах. Але з другой паловы XIX ст., са з'яўленнем фартовых крэпасцяў яна пачала страчваць ваеннае значэнне. Паступова Бабруйская крэпасць набывае іншы «профіль», ператвараючыся ў адну з галоўных вязніц імперыі. У 1863 годзе ў арыштанцкіх ротах налічвалася больш за 2000 чалавек. Дзекабрыстаў змянілі петрашэўцы, апошніх — народавольцы.

Крэпасць канчаткова страчвае абарончае значэнне ў апошняй чвэрці XIX стагоддзя са з'яўленнем наразной зброі. З гэтага часу яна выкарыстоўвалася ў якасці тылавой армейскай базы. Пакінулі свой след у гісторыі крэпасці рэвалюцыйныя падзеі 1905 і 1917 гадоў.

У 1918—20 гг., часова захапіўшы Бабруйск, пілсудчыкі стварылі ў крэпасці лагер для палонных чырвонаармейцаў. У часы Вялікай Айчыннай вайны немцы таксама стварылі ў крэпасці лагер смерці, дзе загінула звыш 60 тысяч савецкіх ваеннапалонных. Пасля вайны ў крэпасці была размешчана вайсковая часць.

Аддадзеная ў рукі Міністэрства абароны СССР, крэпасць у апошнія дзесяцігоддзі нявечыцца. У пасляваенны час былі практычна знішчаны шматлікія ўмацаванні, зрыты земляныя валы, крэпасныя равы, разабрана частка цудоўных мураваных капаніраў. Нягледзячы на тое, што Бабруйская крэпасць была ўключана ў «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», становішча яе ніколькі не змянілася, ды і не магло змяніцца, паколькі яна цалкам застаецца ў руках вайскоўцаў. Па-ранейшаму равы засыпаюцца смеццем, знаходзяцца пад пагрозай знішчэння апошнія капаніры. Адным словам, калі неадкладна не будуць прыняты належныя меры па ахове ацалелых частак крапаснога ансамбля, Бабруйская крэпасць знікне.

В. АБРАМОВІЧ,
гісторык.

*На скрыжаванні думак*

# Не дарэмна жыць на свеце

Неяк у выдавецтве «Мастацкая літаратура», на пляцоўцы ўзбоч калідора (яе называюць «курылкай»), сабралася некалькі чалавек — членаў Саюза пісьменнікаў. Стаім, гамонім. Зайшла размова пра работу сесіі Вярхоўнага Савета БССР, фарміраванне ўрада рэспублікі. Нехта з прысутных выказаў здзіўленне з нагоды незацвярджэння на пасаду старшыні Дзяржкамвыда пісьменніка Сяргея Іванавіча Законнікава, чалавека разумнага, вопытнага, дзелавога.

— Не разумееце? — спытаў адзін з прысутных (ён некалькі дзён назад здаў свой партбілет). — Помніце, пры абмеркаванні кандыдатуры Законнікава адзін з народных дэпутатаў адрэкамендаваў яго як сумленнага камуніста. Гэта і адыграла сваю ролю. Таму і не прайшоў...— А ты, Пятро, яшчэ не падаў заяву аб выхадзе з партыі? — нечакана звярнуўся ён да мяне.

— А чаму я павінен падаваць такую заяву? — раззлаваўся я. — Мне ўручалі партбілет у акопах, яшчэ на пачатку вайны, на Бранскім фронце. Быў палітруком роты, заклікаў першымі ісці ў бой камуністаў і сам быў сярод іх. Ды і пасля вайны, здаецца, стараўся быць сумленным.

Што яшчэ я мог сказаць таварышу, якога паважаю як пісьменніка? Урэшце, рашэнне выйсці з радоў КПСС — асабістая справа кожнага. Праўда, казалі, што гэты таварыш уступаў у партыю, каб заняць наменклатурную пасаду, працаваў сам у партыйных органах, быў дырэктарам адной з устаноў.

А і сапраўды, чаму ў нас такая завядзёнка — адказныя пасады давяраць толькі членам партыі? Некалі давялося мне пачуць расказ добрага нашага паэта, цяпер намесніка старшыні Рады СП Беларусі Уладзіміра Паўлава, які мяне непрыемна ўразіў. Аднойчы, яшчэ ў так званыя застойныя часы, яму прапанавалі «ўверсе» адказную журналісцкую работу. Паўлаў даў згоду, але праз некалькі дзён яго зноў паклікалі «наверх» і сказалі суха, безапеляцыйна, нават не просячы прабачэння: «Атрымалася памылка. Мы не ведалі, што вы беспартыйны».

Успамінаю яшчэ больш агідны выпадак. Сплыло з тае пары шмат гадоў, але забыць гэта немагчыма. Аднаму з нашых лепшых сучасных празаікаў, народнаму пісьменніку рэспублікі прапанавалі пасаду галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларусь». Ён пагадзіўся, але калі выйшаў на працу, заняў сваё месца ў кабінеце галоўнага рэдактара і нават пачаў чытаць нейчы рукапіс, да яго зайшоў адзін адказны таварыш і, не хаваючы вачэй, сказаў:

— Вам гэтае месца прыйдзецца пакінуць. Мы не ведалі, што вы не член партыі.

Наша гутарка ў «курылцы» закончылася на сумнай ноце. А калі я прыйшоў дахаты, пачаў чытаць свежую прэсу, настрой у мяне яшчэ больш пагоршыўся. Што асабліва ўразіла? Хоць бы тая ж нататка ў «Известиях» «Знакомые все лица», змешчаная пад рубрыкай «Реплика». Аўтар нататкі расказваў, што ў 1988 годзе маскоўскае выдавецтва «Политиздат» выпусціла ў свет даведнік «Вялікая Айчынная вайна», у якім побач з імёнамі Георгія Канстанцінавіча Жукава і Аляксандра Матросава, Дзмітрыя Міхайлавіча Карбышава і Мікалая Гастэлы стаялі «неваенныя», хоць і добра знаёмыя прозвішчы: Біруковай Аляксандры Паўлаўны (нар. у 1929 г.), савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча; Маслюкова Юрыя Дзмітрыевіча (нар. 1937 г.), таксама савецкага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча... Аўтар рэплікі падкрэсліваў, што знарок прыводзіў гады нараджэння гэтых асоб, бо ўдзельнічаць у вайне гэтыя людзі ніяк не маглі. Дык чаму ж, пытае ён, у такім выпадку, трапілі яны ў даведнік? Га, дык жа гэта члены Палітбюро і сакратары ЦК!

Прачытаўшы гэтую невялічкую рэпліку ў «Известиях», я адшукаў у сваёй бібліятэцы другі даведнік «Вялікая Айчынная вайна», які быў выпушчаны раней, у 1985 годзе. Гартаючы яго, я проста дзіву даваўся: былых камандзіраў дывізіі, у якой я служыў і ваяваў, — генералаў А. Б. Барынава, А. І. Казарана, іншых палкаводцаў, военачальнікаў, пра якіх я пісаў у сваім франтавым дзённіку, я там не знайшоў. Затое на старонках даведніка кідаліся ў вочы прозвішчы такіх «салдат Перамогі», як Г. Аліеў, В. Грышын, Г. Раманаў і інш. Як яны туды трапілі? Аказваецца, тэма вайны закранался ў іх шматлікіх выступленнях і артыкулах (напісаных памочнікамі).

На маю думку, мы самі кампраметавалі і кампраметуем сваю Камуністычную партыю і высокае званне камуніста. Не дзіўна цяпер, што многія таварышы кладуць свае партыйныя білеты на райкомаўскія сталы, за якімі па-ранейшаму сядзіць нямала чыноўнікаў: ім не хочацца пакідаць наседжаныя месцы, адмаўляцца ад сваіх прывілей.

Сесія Вярхоўнага Савета БССР дэкларавала ў рэспубліцы шматпартыйнасць. Трэба даць поўную свабоду дзеяння ўсім палітычным арганізацыям, кожнай асобе ва ўмовах ствараемай намі дэмакратыі, плюралізму думак, новага мыслення. Дзеля таго, каб кожны мог рабіць рэальную і карысную работу, каб кожны камуніст ці член іншай партыі дбаў пра тое, каб жыць нам у дружбе і міры, каб лепей стала жыць у нашай краіне. Калі ты зрабіў хоць што-небудзь карыснае для сваёй партыі, для свайго грамадства — даў больш хлеба, здабыў лішнюю тону вугалю, напісаў добры верш, калі ты хоць чым-небудзь дапамог свайму краю, радзіме, — можаш ганарыцца, што не дарэмна жывеш на свеце.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

# «ПАСЯГАЮ НА ВЯЛІКАЕ»

*Георгій Колас*

**Андрэй Макаёнак — вядомы і невядомы**

НА ЖАЛЬ, ва ўсіх бібліятэках Мінска (у тым ліку і ў акадэмічнай, і ва ўрадавай, і ў нашай ленінцы) мне не знайшлі газету «Бацькаўшчына», — а было б цікава сёння прачытаць той эміграцкі рэакцыйна-тэндэнцыйны каментарый. Уяўляю, як яны рэагавалі на постаць Самасеева, тыповага ў тым часе старшыні, якога «перакідваюць і перакідваюць, як тую печаную бульбіну — з рукі ў руку», з калгаса — у калгас, а тут, у «Вольнай працы», перад ім, за тры гады, змянілася чатыры старшыні, а сам ён памяняў за восем год шэсць вольных прац, і чуў, што пра ягоных папярэднікаў тут склалі анекдот — пра лёс старшынь, падобны з лёсам бульбы: «калі за зіму не з'ядуць, дык вясной пасадзяць». Гэты анекдот у Макаёнкавай камедыі (паводле чэхаўскага правіла аб стрэльбе,— што калі яна вісіць на сцэне ў першай дзеі, дык абавязкова мусіць стрэльнуць у апошняй), —гэты анекдот пра бульбу «стрэльнуў» з трагедыйным рыкашэтам: не па Самасееву (ён ходзіць і ў фінале з гэткім кандзібоберам), а па ўдаўцу Раману (новы старшыня калгаса пасадзіў яго ў турму за кош насеннай бульбы)...

Як пракаменціраваць такое — «не па-эміграцку»? Як пракаменціраваць, што бульбу, за якую пасадзілі чалавека, ён вырошчваў сам, аднак не мае чым карміць асірацелае і хворае дзіця (а на яго прысядзібным участку сеюць кукурузу: ініцыятыва старшыні Кавальчука!). Як каменціраваць, што старшыня ранейшы (Самасееў) —раздаваў калгаснае дабро раённым «неаслабным» ды «чароўнікавым» — цэлымі вазамі, але ж ім такое абышлося на бюро райкома нейкімі хвілінамі «няёмкага становішча», і шыта-крыта? Як пракаменціраваць, што аўдавелая Аксіння адмаўляецца ісці да аўдавелага Рамана — толькі з-за таго, што «ўсё-такі на двух прысядзібных участках лягчэй жыць, як на адным»? Што план па пагалоўі, спушчаны з раёна, прымушае ўтрымліваць на ферме ялавак, бычкоў?.. Па-эміграцку ці па-іміграцку (акрамя як па-савецку) — як пракаменціраваць такую дырэктыву пра бычкоў і ялавак: «вялікая дзяржаўная палітыка!». Ужо за адно гэта— п'есу трэба было ў што б там ні было з а б а р а н і ц ь! Бо ў ёй усё было — н я в ы д у м а н а е (за выключэннем хваласпеваў). Нават эпізод з раённым «Масквічом», калі «вялікая палітыка», паехаўшы ў калгас, загразла па дарозе, праваліўшыся пад мосцікам у Балачанцы, — як яе выцягваюць калгаснікі з рыдлёўкамі, з сякерамі, з вяроўкамі, з валамі... А самае галоўнае — адказ калгасніка Цярэшкі на «вялікую палітыку»: «Калі вас, вялікага палітыка, так непакояць мае бычкі, тады ці не варта мне занепакоіцца вашай вялікай палітыкай? Тут нешта не тое».

Адно, што аўтар «выдумаў»— сюжэтны ход, прыём: ён пасылае на пасаду старшыні — даўнейшага 25-тысячніка («неаслабнага»), які ў трыццатым годзе менавіта тут, у гэтай вёсцы, пачынаў вось гэты, менавіта гэты цуд — калгас: «Сабраў ты нас, аднаасобнікаў, у адну кучу, ласкуты нашы сцягнуў на жывую нітку, а вузялкі забыўся завязаць. Не паспеў. Паехаў. А што ж гэта за шытво без вузялкоў? Абы што якое — нітка і вылазіць — вось табе і прарэха».

Сам сюжэтны ход—праблемны. Ён насычаны пытаннямі і пра «вялікае шытво», і пра «шаўца». Ідуць сумесныя ўспаміны: «Помніш?», «Помніш?» — дыялог сталічнага Казбека з Самасадам (персанажаў п'есы) пачынаецца з таго, што Кавальчук (рэмарка): «чыркае запалкамі, але яны не загараюцца». Рэмарка падмацоўваецца рэплікай пра «адсырэлыя запалкі». А пытанні—вечныя, пякучыя: хто вінаваты? што рабіць?

КАЗБЕК (прабачце—Кавальчук). А вінаваты ты сам! У т в а і м жа калгасе непаладкі, на с в а ё й жа спіне адчуваеш іх. А што ты зрабіў, каб іх не было? Ты ж гаспадар! Гэта ж т в а ё т у т у с ё!

САМАСАД (Цярэшка — **аж уздыхнуў**). Эх-ха-ха! Які к чорту гаспадар?..

Пастаўлены на ферму загадчыкам, ён заўжды пад загадам. Кавальчук, нібы не ведаючы, што і з-за чаго (паводле п'есы невядома, дзе і чым ён кіраваў за ўсе мінулыя гады), «наіўненька» пытаецца ў Цярэшкі, ці паспрабаваў ён калі-небудзь запярэчыць непарушнаму загаду:

**— Ці, можа, баішся схапіцца з ім за чубы?**

**— Як хочаш, так і разумей, толькі навучаныя. Думаеш, не спрабаваў? Спрабаваў. Было.**

**Здаецца, вуснамі Цярэшкі кажа ўвесь народ. «Было»...**

**— Ты камуніст?**

**— Член партыі.**

**— Калі ў партыю ўступіў?**

**— Пад Сталінградам.**

**— Тады не шкадаваў свайго чуба?**

**— Дык то ж вайна была і перад табою праціўнік быў, вораг. Адным словам, мішэнь відаць была, бі ў лоб, і праўда твая. А тут, брат, чорт яго ведае, паспрабуй разабрацца: прыяцель Самасееў альбо непрыяцель. Даўбанеш яго, а табе скажуць: свайго глушануў.**

Такога «самасаду» мы тады нідзе не каштавалі — ні ў драматургіі, ні ў паэзіі, ні ў прозе. А ў фінале дыялога аўтар вуснамі Цярэшкі намякнуў нам, што «курнулі» мы з ягонымі героямі пакуль што не на поўную зацяжку, на паўмеры праўды: «Чыркаем мы адзін другога словамі, як тымі запалкамі, а іскры не выходзіць, аганьку няма... Адсырэлі нашы запалкі»...

Уявіць няцяжка, як дыміўся гэты «самасад» у «Бацькаўшчыне», як курэла трагедыйная парабала камедыі, праведзеная праз сутычку «за чубы», — той удавец Раман, якога Кавальчук за кош насеннай бульбы ўпёк за краты, у фінале п'есы страсянуў Кавальчука за грудзі: «А цяпер з табой размову кончым... Злодзей я ці не?»..

Я памятаю першы варыянт фіналу з конкурснага экземпляра п'есы (і па пастаноўцы Брэсцкага тэатра), варыянт больш жорсткі: арыштант Раман ішоў на старшыню з сякерай, і каб не Аксіння...

**З запісаў уроссып: «Когда большие политики, государственные мужи вникают в мелочи: чем кормить корову и где сколько сеять кукурузы, то рядовой колхозник начинает задумываться о большой политике» (V, 419).**

Вялікія палітыкі пачулі гэта ў п'есе.

Эміграцкі перадрук і каментарый, мне здаецца, толькі ўзрадавалі забаронцаў п'есы: ім ямчэй было яе забараніць і, заадно, прымусіць аўтара-ерэтыка публічна адрачыся ад сваёй крамолы, прызнаваць яе крамолай, — правучыць яго! І — правучылі.

Ён пачаў пісаць інакш. Хаваючы зярняткі ерасі ў «арэх». Пуляючы арэх «з начыннем» упярэмешку з абоймай «пустацелых» (у «Лявонісе», «Таблетцы»). Грыміруючы арэх «тутэйшы» пад «заморскі» (у «Апостале», «Кашмары» і апошнім трагіфарсе «Дыхайце эканомна»). Словам, ён ператварыўся ў Сміта Хола — дворніка, які «прыкідваецца прастаком», каб містэр Хартлі—«следчы, які прыкідваецца хітрым сышчыкам»,— не здагадаўся, што размова ў «Крымінальнай справе» — не пра прэзідэнта Трумэна, а пра генсека Сталіна.

Сміт Хол — пярэварацень. У «Зацюканым апостале» ён робіцца Малым. Малы пераўвасобіўся ў «Таблетцы» — у Цыбульку. У «Кашмары» ён — Стары. Яшчэ адна парабала: амерыканскі дворнік, стаўшы беларускім пастухом, сасніў, што апынуўся на пасадзе прэзідэнта — «істукана» і «балвана», «бруднага», — якога сам ён, дворнік, «сцёбаў венікам па носе». Аўтарскія хітрыкі?

Да гэтых «хітрыкаў» і «вузялкоў» звяртаўся Макаёнак-драматург у дыялогах, у рэпліках герояў, нават у сваіх рэмарках. З дапамогай «вузялкоў» ён часам спрабаваў даваць нам нейкі знак у інтэрв'ю. Распавядаючы пра тое, як прыйшла задума трагіфарса «Дыхайце эканомна», ён прыгадвае (V, 306) пра свой удзел у складзе беларускай дэлегацыі ў рабоце сесіі ААН, пра ўражанні з сусветнай прамысловай выстаўкі ў Нью-Йорку:

**«Але больш за ўсё мяне зацікавіў адзін экспанат у амерыканскім сектары. Гэта было падземнае бамбасховішча на выпадак атамнай вайны... Калі мы ішлі па прыступках уніз, я звярнуў увагу на белы лісток паперы, прымацаваны кнопкай да сцяны. «Дыхайце эканомна!», —заклікаў нас лісток».**

Пе-ра-дых-нем?

Лісток-пярэварацень, кнопка-чараўніца! На сусветнай выстаўцы? Ці не Сміт Хол вас «прышпандорыў» да заакіянскае сцяны — не па-заакіянску?..

Я не містэр Хартлі, не прыкідваюся «хітрым сышчыкам», але магу засведчыць, што Андрэю Макаёнку не было патрэбы ездзіць у Нью-Йорк у пошуках уражанняў ад атамнага бамбасховішча. Бо памятаю макаёнкаўскі расказ не пра макетна-экспанатны, а пра натуральны варыянт, і не за Атлантычным

**(Працяг на стар. 14—15).**

Заканчэнне. Пачатак публікацыі ў №№ 34 і 35.

З-за гэтай тэмы ён, здаралася, губляў сяброў. Зрываліся намечаныя творчыя кантакты, часам ён і сам не ведаў, з-за чаго.

Барыс Іванавіч Равенскіх — самы рускі з рускіх рэжысёраў, —зацікавіўшыся п'есай «З кірмашу» (з маёй настойлівай рэкамендацыі), паехаў да яго на дачу, з «Пецькам» (я суправаджаць не мог, прыспешвала Масква — у «Театральной жизни» тэрмінова чакалі інтэрв'ю з Равенскіх, я застаўся шліфаваць, перадрукоўваць). Што было на дачы, Макаёнак напісаў праз год ці паўтара (V, 496):

**«Я, Максим Лужанин и Павел Ковалев играли в преферанс. Хотели прервать по случаю приезда столичного гостя. Но он отговорил. Чему мы, честно говоря, обрадовались. Он много болтал—подавал себя. Надо сказать, рассказчик он интересный. Он почти пленил всех.**

**Но пьесу я ему все же не дал, хотя она была почти закончена. Мне хотелось еще кое-что поправить в ней. Это во-первых. А во-вторых, я ему не доверял. Ведь он когда-то в интервью говорил непристойные гадости о сатире. Даже о Гоголе. Но он просил.**

**Я записал его адрес, адрес театра. На клочке бумаги. Ниже он своей рукой записал: «Б. Равенских. ПРОШУ НЕ ЗАБЫТЬ» и подчеркнул.**

**Я не забыл. Пьесу ему послал. Спустя несколько месяцев позвонил. Не прочитал! Ва-ах!!!»**

«Ва-ах!» — было раней. Адразу. Там, на дачы. Пад канец тае сустрэчы. Там «ва-ахнуўся» не Макаёнак, а Равенскіх. Нехта з кампаньёнаў спрэферансіў пад каньяк «жыдоўскі» анекдот. Равенскіх змоўк. Пайшло-паехала далей, у тую ж масць. Равенскіх «знік».

Вычытваючы інтэрв'ю, ён накрыж чырkануў радкі пра Макаёнка і, змахнуўшы з каўняра двух-трох «чарцей», праткнуў мяне халодным позіркам: «Скажы свайму Андрэю Макаёнку, п'есу хай не прысылае — я чытаць не буду».

У мяне адразу — не сказалася. Сказаў пазней...

З-за гэтай «масці» абарваўся макаёнкаўскі «раман» і з Валянцінам Мікалаевічам Плучакам. Канфлікты пачаліся на «Таблетцы». Кончылася тым, што Плучак памяняў «Святую прастату» на «Аплявуху».

Іян Друц (вядомы нам цяпер як Друцэ) муляўся, не хочучы прызнацца, што «не ведаў» Макаёнка — ведаючы гэтую ягоную хваробу.

І «раман» з Яўгенам Еўтушэнкам абарваўся ў Макаёнка — з-за яе...

Равенскіх, Плучак, Друцэ, Еўтушэнка...

Запытацца б у Шамякіна, што крыецца, на яго думку, у пункцірным запыце (у «Памятцы»): «Шамякін або балет?»...

Чытаючы «Атланты і карыятыды» і пазнаючы ў Максіме Карначы Андрэя Макаёнка, заўважаеш націск на «цыганістасці» гэтага героя. Ды і ў «Тайне драмы» (белетрызаванай біяграфіі Андрэя Макаёнка) зноў — тая ж «масць»: дакументальнаму герою аўтар надае мянушку, аб якой ніхто з нас да Шамякіна не чуў — Цыган. Настойлівая прабуксоўка па эрытрацытах «іншароднасці» героя асабіста мне здавалася эфектным «піруэтам», толькі і таго, — ніякіх «патаемных зместаў» я — да «Памяткі» — не бачыў і не думаў бачыць, не прыходзіла такое ў галаву. Прыйшло і торкнула — на Макаёнкавым пытанні: «Дысідэнты. Слова? Хто яны?» Аналагічнае пытанне ёсць у дысідэнта Першага гатунку Уладзіміра Букоўскага (што ні кажы — «эквівалент» Луіса Карвалана!). У аповесці «І вернецца вятрыска» — пра гулагаўскага карпуснога пад мянушкаю Цыган, які быў больш адкрыты, чым астатнія: «Цыган... крычаў нам, не саромеючыся: «Шкада, Гітлер не ўсіх вас у печках папаліў!» — ён меркаваў, што мы ўсе яўрэі»...

Як яно такое здарылася: куля, пушчаная з дула «антыдысідэнцкай» зброі — акурат цаляе ў кулю «дысідэнцкую»? Бываюць «супадзенні»? «Верагоднасць»?

Адкідаем Цыгана. Пакінем толькі макаёнкаўскае: дысідэнты — хто яны. І прозвішчы. Пытанне і адказ зліваюцца ў адно, як сплешчаныя разам кулі ў рэпліцы гулагаўскага карпуснога.

Як рэагаваў на гэты «злітак» —сакратар ЦК? На тое, што прынёс яго ў ЦК — інтэлігент, пісьменнік. Што ў ЦК — панёс. І што ў ЦК — данёс.

Што гэта — «выяўленне грамадскай самадапамогі», — як сказаў бы Міхаіл Яўграфавіч?

Хачу ўявіць такі адказ сакратара ЦК:

— Давай; Андрэй Ягоравіч, пра гэта гаварыць не будзем. І рабіць ніколі так не будзем.

Як было — яму?

Хачу ўявіць такое: Макаёнак, адступіўшы на паўкроку і адвёўшы з-за пляча руку, пагойдаў на далоні легкаватае паветра, быццам вымяраючы ягоную вагу, а потым бадануў прастору лапушыстым чубам:

— Ну і пр-равільна.

Вярнуўшыся дадому, Макаёнак сеў і напісаў на сваёй «Памятцы», наўскось, уверсе: «Людзі, людзі...»

Не, не так яно было? Не так. А як?

У «Нёмане» пайшлі артыкулы клінічнага расіста Бегуна?

...Да «блогаснага» варыянта падштурхнуў мяне той самы дысідэнт Букоўскі — у сваёй прадмове да выдання ў СССР яго аповесці «І вернецца вятрыска»: «Словом, многое изменил бы я или написал по-другому... Но, как известно, написанное и топором не вырубишь. Ушел кораблик. Если же, когда вы прочтете о ком-то, ваша рука потянется к камню, припомните — сколько сделок с совестью привычно совершали иногда за один единственный день, не говоря уж о десятилетиях. Вряд ли найдется сейчас много людей, кто мог бы, положа руку на сердце, утверждать, что никогда и ни в чем не способствовал террористической власти».

А Букоўскага да «блогаснасці» падштурхнулі яго сябры, былыя ўдзельнікі французскага Супраціўлення, расказаўшы, што пасля вайны яны не мелі клопату шукаць, каб пакараць, калабарантаў: «За некаторым выключэннем калабарантамі было ўсё насельніцтва Францыі. Таксама, як уся Францыя была ў Супраціўленні».

Пакладзём на шалі пяць тамоў аўтографаў Андрэя Макаёнка. Зважым «Памятку» і п'есы...

Пішучы пра пяцітомнік Макаёнка — супадзенне, — я чытаў якраз Букоўскага. Цікава. Шмат у чым сыходзяцца. Нягледзячы на тое, што змяніўся колер часу. І нягледзячы на «Памятку».

Стракаты час. Стракаты век. Стракатыя аўтографы. Мы ўсе —стракатыя.

Але — ці ўсе?..

**АД РЭДАКЦЫІ.**

**Заканчваючы сёння публікацыю старонак з новай кнігі Г. Коласа, мусім адзначыць, што аўтар досыць адвольна падае і трактуе некаторыя факты з жыцця драматурга. У прыватнасці, нельга пагадзіцца з ягонымі развагамі пра антысемітызм А. Макаёнка. Прадастаўляем чытачам магчымасць самім меркаваць пра вартасці і недахопы гэтай публікацыі.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Генадзю БУРАЎКІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калегі па рэдакцыі часопіса «Нёман» выказваюць глыбокае спачуванне фотакарэспандэнту Анатолю Данілавічу КАЛЯДЗЕ з прычыны смерці жонкі.**

# Міхаіл ДУБЯНЕЦКІ

3 верасня памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі, перакладчык Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі.

М. Дубянецкі нарадзіўся 4 сакавіка 1927 года ў вёсцы Вастраў Пінскага раёна Брэсцкай вобласці ў сялянскай сям'і. У 1944 годзе скончыў кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Пінску. Настаўнічаў у Лемяшэвіцкай сямігодцы Пінскага раёна. З 1951 года на партыйнай рабоце ў Пінскім, Ганцавіцкім РК КП Беларусі. Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КП Беларусі (1956) і завочна — Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС па спецыяльнасці журналістыка (1960). Працаваў намеснікам рэдактара ганцавіцкай раённай газеты «Сялянская праўда», рэдактарам выдавецтва «Беларусь», галоўным рэдактарам выдавецтва «Ураджай», інструктарам сектара друку ЦК



КП Беларусі, адказным сакратаром — намеснікам галоўнага рэдактара Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Працуючы дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1979—1986), М.Дубянецкі многа сіл, энергіі і ўвагі аддаў справе паляпшэння выдання нацыянальнай літаратуры, духоўнага адраджэння беларускага народа.

З мастацкімі перакладамі Міхаіл Дубянецкі пачаў выступаць у 1964 г. Перакладаў на беларускую мову творы рускіх, польскіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. У яго перакладзе выйшлі зборнік украінскіх апавяданняў, кнігі В.Распуціна, С.Жэромскага, Г.Цюцюнніка, А.Адамовіча і Д.Граніна. Пераклады М.Дубянецкага пазначаны высокім мастацкім густам, глыбокім пранікненнем у ідэйную сутнасць арыгінала.

Светлая памяць пра Міхаіла Фёдаравіча Дубянецкага, таленавітага перакладчыка, чалавека шчодрай душы, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**
**ДЗЯРЖКАМДРУК БССР**

□

**Закончылася жыццёвая дарога Міхаіла Фёдаравіча Дубянецкага. Мы ўсе, хто блізка і з розных прычын уведалі гэтага чалавека, разумеем, каго страціла Беларусь, наш руплівец-народ. Часцінкаю гэтага народа быў, часцінкаю гэтай дарагой зямлі стане цяпер навекі спадар Міхась. Ад нас пайшоў чэсны, адданы праўдзе і сумленню рыцар-змагар за лепшую будучыню Бацькаўшчыны. У найцяжэйшыя часы існавання нашага народа—ці то ў апошнюю страшную вайну, ці ў ліпкай атмасферы сталінска-брэжнеўскай пары, ён атакаваў зло, не баяўся заступіцца за чэснага чалавека-сабрата па жыццю і пяру, не баяўся ўзяць на сябе ўдар чарговага дуралома-бюракрата, мог выйсці і не раз выходзіў насуперак партакратыі. А калі ў краіне, якая стала нагадваць усеагульную казарму, турму і бязбожную абіцель, павеяў выратавальны вецер перабудовы, Міхась Фёдаравіч адным з першых увайшоў у склад Аргкамітэта па стварэнні Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне». Сябрам Сойма БНФ ён быў і да апошняга дня. Ён прымаў удзел у падзеях, звязаных з «Дзядамі» ў 1988 г. і цяпер сусветнавядомымі Курапатамі. Быў дзейным членам кіраўніцтва арганізацыі ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі».**

**Спадар Міхась шчыра хінуўся да моладзі, і яна гарнулася да яго. Гэта, відаць, надавала яму немалую духоўную сілу ў той час, калі хвароба рабіла сваё.**

**Сёння, на парозе вечнасці і расстання, мы схіляем перад Міхасём Фёдаравічам сваё чало і кажам яму, у тую вечнасць, наша сяброўскае «Бывай! Мы цябе не забудзем».**

**УПРАВА СОЙМА БНФ.**

□

**У другім саборным пасланні святога апостала Пятра сказана: «...пакажыце ў веры вашай цноту, у цноце ж розум, у розуме стрыманасць, у стрыманасці цярплівасць, у цярплівасці пабожнасць, у пабожнасці браталюбства, а ў браталюбстве любоў...»**

**Паводле гэтых вершаў хрысціянскіх і жылі Вы, дарагі наш Міхал Фёдаравіч.**

**Вера Вашая была чыстая, розум ясны, сэрца апостальскае.**

**Вы ўмелі цярпець, умелі — як ніхто! — любіць, наіўна спадзяваліся служкаў мамонавых ператварыць у братоў сваіх.**

**Ніводзін наш паэт не ведае стольні добрых слоў, колькі іх ведалі Вы, таму нават пра благіх людзей, чалавечкаў нікчэмных, Вы гаварылі неяк прасветлена, гаварылі са спадзяваннем, нібы тлумачылі субяседніку: і яны ж — людзі, а раптам адумаюцца?!**

**У чэрвені 1981 года ў сваім дырэктарскім кабінеце Вы сказалі мне, студэнту Літаратурнага інстытута, будучаму рэдактару: «Рэдактар — той, хто не баіцца цэнзуры. Кожная таленавітая кніга павінна быць надрукавана».**

**Так, гэта я пачуў у чэрвені 1981 года, калі рассыпаўся набор «Тутэйшых» Янкі Купалы, пачуў не на сябравай кухні, а ў дырэктарскім кабінеце савецкага выдавецтва.**

**Гэта сказалі Вы — ДУБЯНЕЦКІ!**

**І, мусіць, з гэтага часу, а, можа, нават і раней (зрэшты, усё высветліцца) на Вас пачалося паляванне — спланаванае, метадычнае, штомесячнае, нават штотыднёвае, тэлефоннадэбільнае, трыбуннахамскае. Паляўнічых было не злічыць — ад крамлёўскіх зімяніных да нашых дробных суслікаў і стукачоў. Яны, паляўнічыя-прафесіяналы, амаль не пакінулі ніякіх слядоў — ні рэзалюцый, ні загадаў, ні бэндаўскіх артыкулаў. Дзейнічалі даволі абачліва. Навучаныя вопытам папярэдняга тэрору, яны баяліся пакідаць сляды, пратакольныя плямы, таму, упэўненыя ў сваёй беспакаранасці, хапаліся за тэлефоны, выскоквалі на трыбуны, усчыналі пілатаўскія допыты ў сваіх безбалконных кабінетах. Не паперы, яны давяралі толькі свайму голасу. Разумелі: так лягчэй і хутчэй можна пацэліць у сэрца.**

**І пацэлілі.**

**Я ведаю, Вы ім даравалі, Міхал Фёдаравіч. Я таксама дарую, бо не ўмею караць.**

**Карае Бог.**

**29 жніўня Мікола Шаляговіч сказаў мне, што Вы зноў у бальніцы, што зноў сэрца... А я думаў, што Вы ў Польшчы, у краіне, якую любілі і дзе Вас любілі таксама. Вы ж збіраліся туды. Памятаю, як тры гады назад у Варшаве сам Войцэх Жукроўскі папрасіў мяне перадаць Вам яго новыя кнігі і асабісты, поўны ўдзячнасці, ліст.**

**29 жніўня (дзевяць дзён таму!) я сядзеў з Анатолем Сысам каля Вас, каля Вашага апошняга ложка. Нас прывеціла, засмучана ўсміхнуўшыся, цудоўная Марыя Міхайлаўна. Вы распавядалі пра Ірынку, пра яе новы часопіс; Вы шкадавалі, што Галя не піша публіцыстычных вершаў, што ў яе будучым зборніку «Анадыямэна» толькі чыстая паэзія.**

**Мы з Анатолем запярэчылі: дык гэта ж і добра!**

**Гаворка на тым і скончылася...**

**Цяпер я шкадую, што не паспеў больш істотна сказаць Вам пра Галю, пра Вашую таленавітую Галінку, бо яна ж не проста паэтка, а працавітая майстрыха, бо яе вершы, асабліва пераклады твораў Бёрнса і Байрана, — мая чытацкая і рэдактарская радасць, бо ўвесь яе «непубліцыстычны» зборнік «Анадыямэна» кожнаю сваёй старонкаю сцвярджае: паэзія для Галіны Дубянецкай—адзіна магчымы стан існавання, а сама Анадыямэна, яна ж і Венера:**

**Робіць няпэўны крок...**
**Падае на пясок,**
**Акіян шапоча ўлагоджана,**
**Цалуючы сьлед яе ног...**

**Пачуйце мой голас, Міхал Фёдаравіч, пачуйце гэтыя светлыя вершы...**

**Даруйце, што турбаваў, не ў пару тэлефанаваў, калі ўздумалася, тады заходзіў, а то зусім на цэлыя тыдні замаўкаў...**

**Пра Вас я не буду паведамляць сваім бацькам. Пажывіце для іх даўжэй — яны Вас любілі.**

**Няхай усё будзе так: гэты нумар «ЛіМа» прыйдзе ў давыдгарадоцкую бібліятэку, там прачытаюць, а пасля сустрэнуць маю маму дзе-небудзь на базары і скажуць: «Цётко Любо, ваш Лёня напісаў пра...»**

**Міхал Фёдаравіч, Вы ўжо ТАМ, а мы пакуль ТУТ. У нас яшчэ засталіся сякія-такія дробныя клопаты.**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка Міхаіла ДУБЯНЕЦКАГА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Беларускі фонд культуры глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, старшыні гісторыка-мемарыяльнай камісіі БФК Міхаіла Фёдаравіча ДУБЯНЕЦКАГА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

